


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

18 чэрвеня 2004 года

№ 25 (476)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

Тэлетыдзень 18


## Навіны рэгіёну

### Справа старшыні

**МЯДЗЕЛ.** Абласная пракуратура накіравала ў суд крымінальную справу ў дачыненні да былога старшыні вытворчага кааператыва «Брусы». Па папярэдняй змове з грамадзянінам Літвы ён выкраў маёмасць і фінансавыя сродкі на суму каля 80 мільёнаў рублёў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Анкета для віляйчан

**ВІЛЕЙКА.** Акцыю па прафілактыцы дзіцячага бытавога траўматызму правёў 17 чэрвеня раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. Гігіеністы развесілі ў горадзе 100 каляровых плакатаў. Адначасова правялі анкетаванне, пастараўшыся высветліць, у якім стане знаходзяцца дзіцячыя пляцоўкі.

**Марына СЛІЖ.**

### Быў у турнэ

**ВАЛОЖЫН.** З турнэ вярнуўся падпалкоўнік мясцовай часці Сяргей Макей. Лаўрэат тэлевізійных фестываляў салдацкай песні выступаў у складзе Акадэмічнага ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Беларусі ў шасці раёнах Гомельшчыны і Магілёўшчыны.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Сваволяць дзеці

**МАЛАДЗЕЧНА.** 2 пажары, віноўнікамі якіх сталі дзеці, адбыліся з пачатку месяца ў раёне. У вёсцы Парэчча згарэла надворная пабудова, у Плябані знішчаны хлеў.

**Марына СЛІЖ.**

### Асобны цэнтр

**СМАРГОНЬ.** Праблемамі дзяцей з асаблівасцямі псіхічнага развіцця цяпер будзе займацца асобная арганізацыя – цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і развіцця. Раней гэта быў проста адзін з аддзелаў сацыяльна-педагагічнага цэнтра.

**Святлана ЦІШКО.**

### Абаронім ельнік

**АСТРАВЕЦ.** Семінар па абароне і ахове лесу прайшоў у мясцовым лясгасе. Сярод удзельнікаў, якія абмеркавалі праблему высыхання ельнікаў і пажараў, былі супрацоўнікі рэспубліканскай дзяржаўнай установы "Беллесаахова".

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

### Нашы лепшыя

**АШМЯНЫ.** Першае месца ў конкурснай праграме заняла каманда ашмянскай мытні на турзлёце, які праходзіў 11-12 чэрвеня на возеры Укля ў Браслаўскім раёне. Па запрашэнні полацкіх калег у спаборніцтвах удзельнічалі віцебскія і мазырскія мытнікі.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

# Зазірніце ў казку

**– Хочаце зазірнуць у казку? – пытаецца дырэктар летніка "Лясная казка" прафсаюза аграпрамысловага комплексу Вілейскага раёна Ларыса Кіцікава.**

І сапраўды, казка. На высокім узгорку над Віліяй стаяць прыгожыя домікі, а сярод іх казачныя героі: Лесавік, Баба Яга, Вадзяны, гномы і нават чорны кот з Лукамор'я.

На першай змене, кажа Ларыса Кіцікава, у нас адпачывае 145 дзетак. А ўсяго будзе чатыры змены, максімальная магчымасць летніка – 180 чалавек. Рыхтаваліся да адкрыцця ўсім светам, арганізацыі горада і раёна дапамаглі прыбраць тэрыторыю і адрамантаваць будынкі.

Прафсаюз выдаткаваў больш за 3 мільёны рублёў на набыццё аўдыё- і відэаабсталявання для правядзення забаўляльна-інтэлектуальных мерапрыемстваў.

А іх тут праходзіць па некалькі на дзень: конкурс малюнкаў "Мой сусвет", конкурс вырабаў з прыроднага матэрыялу "Лясная фантазія", ужо традыцыйны конкурс малюнкаў на асфальце "Хай заўжды будзе сонца", конкурс-агляд атраднай самадзейнасці, прысвечаны 60–годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, дыскатэкі і г. д.

На думку Ларысы Кіцікавай калектыў педагогаў падабраўся добры: усе яны прыехалі не па разнарадцы, а добраахвотна, таму, што сапраўды любяць дзяцей. Напрыклад старшая важатая **Галіна Язневіч** – прафесійны псіхолаг, культарганізатар – вядомы ў горадзе і раёне самадзейны спявак і кампазітар **Аляксандр Высоцкі** і многія іншыя. Ёсць дагавор аб супрацоўніцтве з калектывам "Экспромт" вілейскага Дома культуры, тэатрам-студыяй "Таленцікі".

—Так, што вітайце да нас на казку, – запрасіла Ларыса Кіцікава, – а падарункамі вам будуць усмешкі і смех нашых дзетак.

**Зазірнуў у казку МІСТЭР.**



**Сняжана Маліноўская, Таня Казінец, Жэня Малахаў, Ваня Вярбіцкі і Оля Мароз адпачываюць у летніку "Лясная казка" ля Вілейкі.**

Фота МІСТЭРА.

### Салдаты – артысты



Палпечнік Юрыя Нікуліна Міхаіл Шуйдзін вызваляў Вілейку і Смаргонь.

2-я старонка

### Барысаў наступае



Службы даведкі з некаторых райцэнтраў нашага рэгіёну «пераехалі» ў Барысаў.

3-я старонка

### Апошні шанц

Для эканомікі Беларусі шанц яшчэ не страчаны. Пра гэта гаварылі вядомыя эканамісты Станіслаў Багданкевіч і Леанід Заіка на сустрэчы, арганізаванай у Маладзечне.

7-я старонка

■ ВЫСТАВЫ

# Яны вызвалялі наш край

**Наша памяць - выстава, прысвечаная вызваленню Беларусі пад назвай: « Аперацыя «Баграціён» : людзі, падзеі, подзвігі», экспануецца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі. У экспазіцыі прадстаўлены матэрыялы з фондаў абласнога і раённых музеяў вобласці.**

Беларуская наступальная аперацыя 1944г. (кодавая назва «Баграціён») - адна з буйнейшых стратэгічных наступальных аперацый Чырвонай Арміі. Праведзена 23.06-29.08.1944г. На пачатак аперацыі фронт на Беларусі праходзіў, утвараючы так званы Беларускі выступ, павернуты сваёй вяршыняй на Усход, даўжынёй больш за 1100 км., праз які праходзілі бліжэйшыя шляхі да граніц Германіі.

На тэрыторыі Беларусі вораг стварыў глыбокаэшаланаваную (250-270 км.) абарону (умоўная назва «Фатэрланд»), якая апіралася на развітую сістэму палявых умацаванняў і прыродныя рубяжы (абарончыя палосы праходзілі пераважна па заходніх берагах шматлікіх рэк з шырокімі забалочанымі поймамі). Яе утрымлівалі група армій «Цэнтр»,частка групы «Поўнач», «Паўночная Украіна». Для разгрому варожай групоўкі савецкае Вярхоўнае Галоўнакамандаванне вылучыла 1-ы Прыбалтыйскі (генерал арміі І.Х. Баграмян), 1-ы Беларускі (генерал арміі К.К. Ракасоўскі), 2-і Беларускі (генерал арміі Г.Ф. Захараў), 3-і Беларускі (генерал арміі І.Д.Чарняхоўскі).

У адпаведнасці з планам беларускай аперацыі прадугледжваўся адначасовы прарыў абароны праціўніка на 6-ці ўчастках з мэтай расчляніць яго войскі і разбіць іх па частках. Асаблівае значэнне надавалася разгрому найбольш моцных флангавых груповак нямецка-фашысцкіх войск у раёнах Віцебска і Бабруйска, што забяспечвала ўмовы для імклівага прасоўвання буйных сіл 3-га і 1-га Беларускіх франтоў і развіцця іх паспяховага наступлення на збежных напрамках на Мінск. Уцалелыя ад разгрому войскі праціўніка планавалася адкінуць на 200-250 км. у нязручны для абарончых дзеянняў раён пад Мінскам, адрэзаць шляхі адыходу, акружыць і ліквідаваць іх, нарошчваючы ўдары выйсці да Заходняй граніцы СССР.



Міхаіл Шуйдзін (справа), народны артыст РСФСР, шматгадовы напарнік Юрыя Нікуліна вызваляў Вілейку і Смаргонь. Фота з архіва "РГ".

Змагаўся за вызваленне Вілейкі, Смаргоні народны артыст РСФСР, вядомы «клоун Міша» **Міхаіл Шуйдзін**. Танкавы ўзвод Шуйдзіна захапіў плацдарм на подступах да Смаргоні і адбіваў атаку за атакай. У сувязі з гэтым была выдадзена лістоўка, якая перадавалася сярод салдат з рук у рукі. Міхаіл гарэў у танку, часова страціў зрок, не працавала рука. Самаадданыя трэніроўкі спатрэбіліся, каб фізічна аднавіцца і вярнуцца на працу ў цырк.

Маладзечна вызвалена 5.7.1944г. войскамі 3-га Беларускага фронту, партызанамі брыгады «Народныя мсціўцы» у ходзе Віленскай аперацыі. 13 воінскім часцям і злучэнням, якія вылучыліся пры вызваленні горада, нададзены ганаровыя найменні «Маладзечанскіх». Шмат подзвігаў было здзейснена пры вызваленні горада.

Яшчэ 2 ліпеня 1944г., штурмуючы з паветра эшалоны з жывой сілай, ваеннай тэхнікай і зброяй ворага, якія скапіліся на Маладзечанскім чыгуначным вузле, памочнік камандзіра 952-га штурмавога авіяпалка 311-й штурмавой авіядывізіі капітан **Фёдар Селязнёў** са свайго «ІЛ-2» убачыў, што фашысцкі браніраваны цягнік імкнецца адыйсці ў бок Вільні, дагнаў яго каля Насілава і расстраляў. Фашысты збілі самалет, паветраны стралок сяржант **А.Сцяпанаў** быў мёртвы, а капітан Селязнёў - жывы, хаця абгарэў, быў паламаны пазваночнік, прастрэленая шыя. Фашысты імкнуліся дапытаць яго, але нічога не даведаўшыся, аблілі бензінам і падпалілі.

Загінуў пры вызваленні Маладзечна камандзір 121 кавалерыйскага палка 32 кавалерыйскай дывізіі **Арцём Акапян**, падняўшы полк у атаку. За гэта быў узнагароджаны ордэнам Леніна пасмяротна.

На чале танкавай роты 26.6.1944г. уварваўся ў г.Сянно Віцебскай вобласці старшы лейтэнант **Рыгор Кіяшка**. Знішчыў 2 гарматы, 3 аўтамашыны, шмат гітлераўцаў; каля в.Чарэя разграміў варожы абоз, падбіў самаходную гармату; а пры вызваленні Краснага рота знішчыла 3 танкі, 6 гармат, 40 абозаў і больш 200 салдат і афіцэраў ворага, узарвала склад з боепрыпасамі, падпаліла склад з палівам. Гітлераўцы падпалілі машыну і акружылі, тройчы паранены ён гранатамі пралажыў сабе шлях і выйшаў з акружэння. У 1945 г. Рыгору Кіяшку было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Пры асушэнні Чысцінскіх балот ў 60гг.ХХст. знойдзены былі рэшткі самалёта . Пазней было ўстаноўлена, што гэта самалёт лейтэнанта **Мікалая Андракіна**. Карта, планшэт, фотаздымкі, паштоўка на яго імя захоўваюцца ў нашым музеі.

На выставе прадстаўлены матэрыялы **Пятра Ржавуцкага** – былога хірурга Маладзечанскай бальніцы. У гады вайны - памочніка каменданта г.Берліна. **Данілы Казакевіча** – Героя Савецкага Саюза(1945), генерал-лейтэнанта(1967), ураджэнца в.Радзеўцы Маладзечанскага раёна. **Канстанціна Дораха**, які вызначыўся пры вызваленні Бабруйскага раёна, за што быў узнагароджаны ордэнам Славы III ст. **Паўла Емцава** – удзельніка савецка-фінскай вайны, які прайшоў усю Вялікую Айчынную вайну, перамогу сустрэў у Празе. **Аляксандра Мазаніка**, які перамогу сустрэў у Берліне. і інш..

На тэрыторыі Мінскай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны дзейнічала 68 брыгад і 23 асобныя партызанскія атрады. У экспазіцыі прадстаўлены фотаздымкі: **Мірона Крэсава** – камісара атрада «Беларускі мсцівец», Івана Міроненкі – камісара партызанскай брыгады імя Фрунзе;

Партызан-медыкаў – **Мікалая Мароза, Яўгеніі Самовіч**; сувязных – **Варвары і Міхаіла Лебедзяў**; кіраўніка падпольнай камсамольска-маладзёжнай групы – **Данілы Герновіча**.

**Лілія НАГАЙЦАВА, загадчыца аддзела Мінскага абласнога краязнаўчага музея.**

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

## Жорсткія гульні

За агароджай, якая атуляе двор школы, весела і шумна. Яно і не дзіва, канікулы. І калі, як не цяпер, уволю можна пабегаць, падурэць, пагуляць. Толькі гульні ў дзяцей нейкія жорсткія атрымліваюцца. Вось і некалькі дзён таму, мела магчымасць назіраць, як трое падлеткаў, залішне развесяліўшыся, перакінулі, дзеля жарту, цераз бетонную агароджу свайго сябра. Рабілі гэта з гоманам, крыкам, смехам. Не змоўк ён і тады, калі хлопец, бразнуўшыся з паўтараметровай вышыні, абхапіў рукамі калена і стаў качацца па зямлі.

“Пад’ём, уставай,” — крычалі яму, звесіўшы праз агароджу галовы, сябры. Ён, здаецца, іх не чуў. Перавярнуўшыся на спіну, з падкурчанай нагой, бы той маятнік, хістаўся з боку ў бок і нічога не адказваў. “Нагу зламаў, трэба хуткую выклікаць,” — вырашылі мы з калегай. Але акурат у гэты момант хлопец падняўся і, накульгваючы, пайшоў.

Галовы за агароджай зніклі. А небарака, над якім яны так недарэчна пажартавалі, яшчэ хвілін пятнаццаць сядзеў на парапеце і, змахваючы слёзы, паціраў ударанае калена. “Маладосць жорсткая,” прамільгнулі ў галаве прачытаныя калісьці словы і ўспомніўся хлопчык, які ляжаў разам з маім сынам у траўматалагічным аддзяленні бальніцы.

Няшчасце з ім здарылася 1 мая, пад час футбольнага матчу. Аднакласнік, які гуляў за другую каманду, падставіў Дзіму падножку і той, упаўшы, зламаў нагу ў бядры. Мясцовыя медыкі адправілі на лячэнне ў сталіцу, дзе ён, на выцяжцы, павінен быў праляжаць два месяцы.

“Ты чаму нічога не ясі?”, — пагрозлівым голасам пыталася ў худзенькага, скура ды косці хлопчыка і, падсунуўшы да ложка крэсла, карміла з лыжкі. Ён паслухмяна адкрываў рот, глытаў, упераменшку са слязамі, кашу і адварочваў галаву да сцяны. “Яму нельга падымацца з ложка, а вутку, калі трэба, прасіць сароміецца. Таму і не есць нічога, — патлумачыў хлопчык, што ляжаў ля акна”.

“Табе колькі гадоў?” — нейкім не сваім голасам спытала ў Дзімы. “Два-на-ццаць,” – нараспеў адказаў ён. “Майму старэйшаму сыну столькі ж, колькі і табе. Таму саромецца не трэба. З сённяшняга дня тваю вутку буду насіць я”.

Праз два тыдні нас выпісалі. “Бывай, ды не лазь больш у дом праз акно,”— сказаў на развітанне майму пяцігадоваму сыну Дзімка. “Ты таксама папраўляйся, а то каманда без нападаючага сумуе,” – пастаралася падбадзёрыць хлопца. “Не сумуе, — цяжка ўздыхнуў ён. Паўтара месяца як у бальніцы, а ніхто з сяброў так і не прыехаў”.

Жорстка, скажаце вы. Бывае і горш. У адной з вёсак Валожынскага раёна маладога чалавека збілі так, што медыкі вымушаны былі выдаліць яму селязёнку. Насаліў каму? Ды не! Проста, дурная кроў у тых хлопцаў зайграла.



**Разважала Марына СЛІЖ.**

■ ПРЭМ’ЕРЫ

## «Вясёлы балаганчык»

**МАЛАДЗЕЧНА. 11 чэрвеня ў Мінскім абласным тэатры лялек “Батлейка“ адбылася прэм’ера канцэртна-гульнёвай праграмы “Вясёлы балаганчык “Залаты ключык“. Рэжысёр–пастаноўшчык галоўны рэжысёр тэатра Мікалай Андрэеў.**

Праграма падрыхтаваная для дзяцей і дарослых, якія адпачываюць у летніках, санаторыях, прафілакторыях.

У вялікай канцэртна–гульнёвай праграме лялькі спевакі, акрабаты, джазмэны, танцоры, спартыўныя нумары. А таксама – гульні і танцы з удзелам гледачоў. Тэатр лялек прымае і калектыўныя заяўкі па тэлефоне ў Маладзечне 53673.

**Аддзел інфармацыі “РГ“.**

## 20 карцін да фэсту

**МЯДЗЕЛ. У Будславе праходзіць пленэр.**

10 мастакоў, праўда, не жывуць там пастаянна, а прыязджаюць на нейкі час. Але кожны збіраецца намаляваць па 2 карціны, якія выставяць на фэсце 2 ліпеня.

**Аддзел інфармацыі “РГ“.**

■ ЛЕТА

## Вясёлкавы карагод у «Зубраняці»

**МЯДЗЕЛ. У Нацыянальным дзіцячым аздараўленчым лагеры “Зубраня” сабраліся выхаванцы школ-інтэрнатаў рэспублікі — там праходзіў традыцыйны фестываль “Вясёлкавы карагод”.**

Былі розныя мерапрыемствы, дзе дзеці дэманстравалі свае таленты, а завяршыўся фестываль гала-канцэртам.

**Аддзел інфармацыі “РГ“.**

■ ВЫСТАВЫ

## Жорж Санд і яе стагоддзе

**МІНСК. Пасольства Францыі ў Беларусі вырашыла адзначыць двухсотгоддзе з дня нараджэння Жорж Санд мастацкай выставай «Жорж Санд і яе стагоддзе».**

Мерапрыемства, якое пройдзе з 18 чэрвеня па 1 ліпеня ў нацыянальным мастацкім музеі, арганізуе галерэя «Зямля людзей» пры падтрымцы пасольства Францыі і пры ўдзеле Міністэрства культуры Беларусі, Нацыянальнага мастацкага музея, Дома Поль Прутэ ў Парыжы.

**Паводле БелаПАН.**

■ СУВЯЗЬ

# Службы даведкі знікаюць

**У Мядзеле з 1 мая няма даведачнай інфармацыйнай службы (даведкі па тэлефоне). Цяпер Мядзел, Вілейку, а ў хуткім часе, магчыма, і Валожын будзе абслугоўваць Барысаўскі вузел сувязі. Менавіта там ствараюць адзіную службу даведкі Мінскай вобласці.**

Служба даведкі на маленькіх вузлах сувязі, сказаў начальнік Мядзелскага раённага вузла электрычнай сувязі **Валеры Койра** ў інтэрв'ю "РГ", як правіла, нерэнтабельная, не акупляе сябе. "Дзешавей выдаць новы тэлефонны даведнік, чым трымаць штат работнікаў", – патлумачыў ён. У Германіі, па яго словах, даведнікі перавыдаюць ледзь не штомесяц.

Рашэнне аб тым, што абласная служба даведкі будзе працаваць у Барысаве, а не ў Мінску, прыняло кіраўніцтва "Мінскаблтэлекам". Гэта больш выгадна ў эканамічным плане. Па словах аднаго з інжынераў гэтага прадпрыемства, які пажадаў застацца невядомым, у сталіцы арэнда памяшкання вельмі дарагая, а сваіх не хапае. "У Барысаве ёсць уласныя плошчы і падрыхтаваны персанал, – сказаў ён. – Транспартныя зносіны з гэтым горадам таксама добра наладжаныя".

Карыстальнікі службы даведкі перамены наўрад ці заўважаць: яны па-ранейшаму будуць набіраць 09. Аператар у Барысаве на вызначальніку нумара бачыць, з якога горада тэлефануюць, даведку па якім горадзе хутчэй за ўсё будуць заказваць. Кошт паслугі ад пераносу электроннай базы дадзеных у іншы горад не зменіцца: з 15 мая 2004 года для насельніцтва яна каштуе 90 рублёў, у начны час, з 22.00 да 6.00, – удвая даражэй. За атрыманне нумара тэлефона абанента, які знаходзіцца ў іншым горадзе Мінскай вобласці ці Беларусі, трэба будзе заплаціць яшчэ і за 2 хвіліны размовы па вобласці ці па краіне.

**Святлана ЦІШКО.**



**Карыстальнікі службы даведкі перамены наўрад ці заўважаць: яны па-ранейшаму будуць набіраць 09. Аператар у Барысаве на вызначальніку нумара бачыць, з якога горада тэлефануюць, даведку па якім горадзе хутчэй за ўсё будуць заказваць.**

Фота ByMedia.Net.

# Бясплатная сувязь ветэранам

**МІНСК. Рэспубліканскае аб'яднанне «Белтэлекам» аб'явіла аб святочнай акцыі да 60-годдзя з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў для ўсіх інвалідаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. На працягу сутак 3 ліпеня 2004 года ветэраны змогуць бясплатна павіншаваць па тэлефоне сваіх баявых сяброў у іншых гарадах Беларусі.**

Як паведамілі БелаПАН у РА «Белтэлекам», бясплатныя міжгароднія тэлефонныя размовы па рэспубліцы будуць прадастаўляцца ў пунктах калектыўнага карыстання (ПКП), аўтаматызаваных перагаворных пунктах (АПП), аддзяленнях сувязі па прад'яўленні «Пасведчання ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны» ці «Пасведчання інваліда Вялікай Айчыннай вайны». Бясплатна патэлефанаваць можна будзе таксама з кватэрнага тэлефона, зарэгістраванага на інваліда ці ўдзельніка ВАВ, па аўтаматычнай сувязі ці праз тэлефаніста. Такая ж магчымасць будзе дадзена інвалідам і ўдзельнікам ВАВ, якія знаходзяцца на лячэнні ў шпіталях. Яны змогуць патэлефанаваць са шпіталяў з выдзеленага для гэтых мэт тэлефона, прад'явіўшы пасведчанні.

Пагаварыць па тэлефоне са сваімі баявымі сябрамі ў Беларусі змогуць і ветэраны-госці рэспублікі — ім таксама будзе дадзена магчымасць бясплатных размоў з пунктаў калектыўнага карыстання, перагаворных пунктаў, аддзяленняў сувязі па прад'яўленні пасведчання інваліда ці ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны.

Разам з тым, падкрэслілі ў аб'яднанні «Белтэлекам», па-ранейшаму платнымі будуць у гэты дзень размовы з абанентамі мабільных сетак і выхад у інтэрнет.

Ва ўсіх абласных гарадах для ветэранаў арганізавана праца даведачных службаў, дзе можна ўдакладніць пытанні па прад'яўленні бясплатных міжгародніх тэлефонных размоў: у Мінску— 053, у Мінскай вобласці — 814, у Гомелі — 072, у Брэсце — 053, у Віцебску — 814, у Магілёве — 818, 053, у Гродне — 812.

**Паводле БелаПАН.**

# Інтэрнэт-сістэма для інвалідаў іх блізкіх

**МІНСК. З 15 чэрвеня ўпершыню ў Беларусі пачала працаваць спецыялізаваная інтэрнет-сістэма інфармацыйнага абслугоўвання інвалідаў і іх блізкіх. Дадзены рэсурс з'явіцца па адрасе: www.different-equal.org па ініцыятыве Беларускага маладзёжнага грамадскага аб'яднання «Розныя-Роўныя» пры падтрымцы фонду «Акцыя чалавека» і арганізацыі «Fortotschka e.v.» (Германія).**

Як паведаміла БелаПАН каардынатар праекта Галіна Крот, наведвальнікі сайта змогуць даведацца аб дзейнаці дзяржаўных, грамадскіх, камерцыйных і рэлігійных арганізацый, накіраванай на дапамогу і падтрымку інвалідаў, і паслугах, што прадастаўляюць гэтыя структуры.

Уся інфармацыя на сайце падзелена на рубрыкі, прысвечаныя медыцынскім і рэабілітацыйным цэнтрам, спецыяльным навучальным установам, арганізацыі вольнага часу, заняткам спортам, знаёмствам і іншым тэмам. Апрача таго, знайсці неабходную інфармацыю па ключавых словах у базе даных дапаможа пошукавая сістэма.

Тут жа можна будзе атрымаць юрыдычную і псіхалагічную кансультацыю, а таксама інфармацыю аб вакансіях для людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі.

База даных з часам будзе паступова абнаўляцца і папаўняцца, сказала кіраўнік праекта. «У перспектыве гэты інтэрнет-рэсурс стане пляцоўкай для правядзення форумаў і канферэнцый па шырокім спектры сацыяльных праблем», — зазначыла Галіна Крот.

Прататыпам для стварэння такога кшталту інфармацыйнага цэнтра,. паводле яе слоў, стала нямецкая сістэма, якая «вырасла з маленькай базы даных, а цяпер атрымала шырокае прызнанне і распаўсюджваецца на электронных дысках, яе вывучаюць у школах гэтай краіны».

«Мы спадзяемся, што інфармацыя надасць маладым людзям з абмежаванымі магчымасцямі сіл, дапаможа вырашыць многія праблемы», падкрэсліла Г.Крот.

За пяць гадоў працы арганізацыя «Розныя-Роўныя» рэалізавала мноства сацыяльных і культурна-адукацыйных праграм, у тым ліку для маладых людзей з фізічнымі і разумовымі абмежаваннямі. Асноўная задача арганізацыі — стварэнне раўнапраўнага дыялогу паміж людзьмі з абмежаванымі магчымасцямі і грамадствам. Паводле слоў Галіны Крот, у адзінай камандзе рабяты змаглі пераадолець негатыўныя стэрэатыпы ў дачыненні да інвалідаў, разбурылі псіхалагічныя бар'еры, якія ім перашкаджалі плённа працаваць раней.

Найбольш буйнымі сярод праведзеных праектаў сталі: экалагічны фестываль «Круглае возера», школа маладых лідэраў «Гіпербарэя», а таксама курсы па ўкараненні інтэрактыўных метадаў выкладання экалогіі ў школе «Экалоджык». Апрача таго, у рамках адной з праграм у горадзе Жодзіна Мінскай вобласці быў створаны клуб для маладых людзей з абмежаванымі магчымасцямі і іх здаровых равеснікаў.

**Паводле БелаПАН.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 10.6 руб. | 17.6 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2156,00 | 2154,00 |
| Еўра | 2631,51 | 2612,26 |
| Злоты | 572,34 | 569,77 |
| Літ | 762,11 | 756,59 |
| Расійскі рубель | 74,26 | 74,22 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2145/2165 | 2145/2165 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 9.6 | 16.6 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13900 | 13900 |
| Сасіскі, 1 кг | 5020 | 5020 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 1 кг | . | 1350 |
| Грэчка, 1 кг | | 1600 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1570 | 1570 |
| Алей, 1 л | 2200 | 2400 |
| Маянэз, 200 г | 530 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2400 | 2400 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1200 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 1000 | 1000 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1100 | 1050 |
| Капуста, 1 кг | 1200 | 900 |
| Морква, 1 кг | 500 | 400 |
| Лімоны, 1 кг | 2900 | 3000 |
| Апельсіны, 1 кг | 2000 | 2000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1300 | 1300 |
| Клубніцы, 1 кг | 6300 | 5500 |
| Чарэшні, 1 кг | 3800 | 4000 |

## Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2400 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 6000 |
| Тварог, 1 кг | 2400 | 2700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1800 | 2000 |
| Сала, 1 кг | 3000 | 5000 |
| Бульба, 1 вядро | | 2800 |
| Бульба малад., 1 кг | 2800 | 2800 |

■ АХОЎНІКІ ПРЫРОДЫ

# Што можа інспектар

**ВІЛЕЙКА. Вілейская міжраённая дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету існуе з 27 студзеня 2003 года. Тэрыторыя яе ўплыву – Вілейскі, Маладзечанскі, часткі Валожынскага і Лагойскага раёнаў. Усяго ў Беларусі такіх структур 48, побач з Вілейскай дзейнічаюць Мядзельская, Лепельская, Смаргонская інспекцыі. Аднак кожны інспектар можа працаваць на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Пасведчанне дазваляе без папярэдняга паведамлення наведваць прадпрыемствы любой формы ўласнасці, а таксама ваенныя аб'екты. Інспектары могуць спыняць транспартныя і плаваючыя сродкі, аглядаць рэчы. Яны нават могуць насіць зброю.**

Зброя для інспектараў не проста сродак для застрашвання: сітуацыі бываюць розныя. Старшы дзяржінспектар Генадзь Лісоўскі расказаў, што яму і яго калегам даводзіцца разы 3 на тыдзень выязджаць у рэйды. Бываюць і начныя. Інспектары на машыне выязджаюць у лес. Па словах Генадзя Лісоўскага, адразу відаць, пужаная дзічына ці не. Калі падобна на тое, што паляўнічыя прыязджалі не ў сезон, машыну ставяць у якім-небудзь не вельмі прыкметным месцы, фары гасяць і чакаюць. У паляўнічых правяраюць не толькі наяўнасць дазволу на адстрэл пэўнага віду жывёлы, але і від патронаў. Бывае, што патроны паляўнічы ўзяў на мядзведзя, а дакументы мае пры сабе на адстрэл дробнай дзічыны – зайца, вавёркі.

Сочаць таксама за высяканнем і вывазам лесу. Падчас рэйду 8 чэрвеня на тэрыторыі Вязынскага лясніцтва інспектары заўважылі людзей, якія грузілі на машыну таўставатыя хваёвыя дрэвы. Інспектар Алена Бандаровіч праверыла дакументы ў таго, хто назваўся старэйшым. Тут усё было ў парадку. Ляснік Пётр Гаўрылік, які адпускаў лес вілейскаму водаканалу, меў пры сабе і білеты на высечку, і таварна-транспартную накладную. У некаторых людзей, па словах Генадзя Лісоўскага, з сабой патрэбных дакументаў няма. Гэта ўжо парушэнне: дакументы павінны быць там, дзе пілуюць, сякуць ці проста вывозяць лес. Акурат на той дзялянцы, дзе працаваў Пётр Гаўрылік, прадпрымальнік з Вілейкі атрымаў штраф памерам 3 базавыя велічыні (57 тысяч рублёў) за тое, што яго людзі вывозілі лес без дакументаў.

У той жа дзень пасля таго, як знялі на Вілейскім вадасховішчы сеткі браканьераў, у лесе непадалёк ад Вязыні інспектары ўбачылі людзей, якія грузілі на машыну папілаваныя дрэвы. Дакументаў на вываз драўніны на месцы не было. Кіроўца сказаў, што дакументы выпісаныя, але яны ў ляснічага. Для пратакола гэты чалавек назваўся, але сцвярджаў, што не мае пры сабе нават вадзіцельскага пасведчання. Зразумеўшы, што "папаўся", ён пачаў прасіць: "Мы ж не дзеламу драўніну вывозім – гэта ж бабулі на дровы. Мы, можна сказаць, ачышчаем лес. А хочаце, усё выгрузім і паедзем адсюль?". На наступны дзень ён прыйшоў у інспекцыю, дзе і атрымаў штраф.



Старшы дзяржінспектар Генадзь Лісоўскі і кіроўца Генадзь Нікалаевіч рыхтуюць лодку да рэйду па Вілейскім вадасховішчы. Фота Святланы ЦІШКО.

"Да прыроды трэба звяртацца на "Вы", – сказаў напрыканцы сустрэчы Генадзь Лісоўскі. – Хацелася б звярнуцца да аматараў адпачываць на прыродзе: не рыбачце падчас нерасту, не палюйце ў забароненыя перыяд, не мыйце на берагах рэк, азёр і вадасховішчаў машыны. Задача чалавека – берагчы прыроду, а не знішчаць яе".

**"Гарачы" тэлефон інспекцыі аховы жывёльнага і раслінага свету ў Вілейцы 5-16-31 па панядзелках і пятніцах, у Мінску 89-39-55.**

**Святлана ЦІШКО.**

## Твой участковы

**Працягваем знаёміць чытачоў з участковымі міліцыянерамі рэгіёну. Сёння – зноў вартавыя правапарадку Маладзечна.**



**Андрэй Грабёнкін, старшы лейтэнант, Лебедзеўскі с/с, тэл. 2-02-93.**

Участак: вёскі Вялікая Боркаўшчына, Гораўшчына, Грудкі, Іваноўшчына, Лебедзева, Лабачоўка, Маліноўшчына, Малая Боркаўшчына, Паляны, Насілава, Засценкі, Лешна, Баяры, Дамашы, Забалацце, Бушавіца, Цюрлі Сакаўскія, Цівідаўка.



**Алег Горбач, капітан, Мясоцкі с/с, тэл. 96-1-52.**

Участак: вёскі Сасновы Бор, Мясата, Выверы, Крыніца, Раеўшчына, Загор'е, Зарачанская, Пісараўшчына, Вялікія Кашэўнікі, Куромшчыны, Рухлі, Селівонаўка, Самалі, Верадова, Рашаткі, Куты, Кутляны, Лазавец, Слабодка, Татаршчызна, Мыслевічы, Рагазы, Адамавічы, Гаравіны, Цюрлі, Выграпаўшчына, Каледзіно, Куклаўшчына, Шнуры.

■ У ПРАКУРАТУРЫ

## Забойстваў стала больш

**ВІЛЕЙКА. Пракуратура вядзе следства па забойству мужа з жонкай, састарэлых жыхароў вёскі Ваўкалатка. Іх знайшлі мёртвымі ва ўласным доме два тыдні таму.**

Абвінавачваюць сына, раней судзімага 34-гадовага Генадзя. Ён жыў разам з бацькамі і нідзе не працаваў. Пасля чатырох дзён сумесных п'янак бацькі адмовіліся даць сыну грошы на пахмелку. За гэта ён да смерці забіў бацькоў нагамі. Па словах следчага Вілейскай пракуратуры Дзмітрыя Кебеца, забойца наўрад ці пазбавіцца вышэйшай меры пакарання.

Толькі з пачатку года ў Вілейскім раёне адбылося 6 злачынстваў, у якіх былі забітыя 8 чалавек. Гэта ў два разы больш, чым за ўвесь мінулы год. Усе яны раскрытыя пракуратурай, а дзве справы ўжо перададзеныя ў суд.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

■ ЗЛАЧЫНСТВА РАСКРЫТА

## Труп знайшлі ў сажалцы

**ВІЛЕЙКА. У закінутай сажалцы вёскі Лыцавічы дзеці знайшлі труп мужчыны. Для таго, каб устанавіць яго асобу, супрацоўнікам раённага аддзела ўнутраных спраў спатрэбіліся два дні. А праз нейкі час былі знойдзены і забойцы.**

У хаце гуло застолле. Муж і жонка У. праводзілі снежаньскі вечар у кампаніі аднавяскоўца М. Гаварылі пра надвор'е, жыццё, праблемы і цяжкасці, з якімі сутыкнулася сям'я мужчыны. Марачы аб лепшым жыцці ў свой час яны пераехалі з Брэсцкага раёна ў Вілейскі. Але ў Лыцавічах таксама незаладзілася. Забраўшы дачку жонка падалася на радзіму, а М. застаўся. Усім казаў, што часова. Меў намер падацца на заробкі ў Расію.

Сабутыльнікі, якія да гэтага часу мірна сядзелі за сталом, сталі сварыцца. Калі слоў акazалася мала, муж і жонка У пачайшлі на кулакі, затым – у ход пайшла сякера...

Цела М., заручыўся падтрымкай цёмнай ночкі і 'яшчэ аднаго свайго таварыша, яны пагрузілі ў воз. Сляды злачынства вырашылі схаваць за вёскай, ў сажалцы.

Мужчыну ніхто не шукаў.

Цела М. вылавілі з рэчкі 7 сакавіка. А праз нейкі час, дзякуючы супрацоўнікам крымінальнага вышуку, былі затрыманы і злачынцы, якія прызналіся ў здзейсненым. На галаве трупа, па словах міліцыянераў, было сем ран.

**Марына СЛІЖ.**

■ КАДРЫ

## У чаканні загадаў

**ВІЛЕЙКА. Магчымыя кадравыя перамены ў кіраўніцтве Вілейскага раённага аддзела ўнутраных спраў могуць наступіць неўзабаве.**

**Як стала вядома рэдакцыі з крыніц у праваахоўных органах, на мінулым тыдні адбылося пасяджэнне калегіі ўпраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама, дзе разглядалася работа аддзела. Штуршком да разгляду паступіла пісьмо, дзе нібыта пералічваліся парушэнні ў рабоце некаторых кіраўнікоў аддзела.**

У выніку праведзенай праверкі службай унутранай бяспекі некаторые факты парушэнняў або службовай абыякавасці былі знойдзеныя. У прыватнасці, гэта тычылася выпадку забойства пажылой сямейнай пары ў вёсцы Сакавічы. Злачынства, магчыма, можна было папярэдзіць, каб былі прынятыя адэкватныя меры да будучых забойцаў, якія былі заўважаныя незадоўга да гэтага ў хуліганскіх дзеяннях.

Па інфармацыі, якая ёсць у рэдакцыі, можна чакаць пераводу на ніжэйшую пасаду кіраўніка аддзела Сяргея Кухарчыка, які цяпер знаходзіцца ў водпуску, і звальнення з органаў унутраных спраў аднаго з яго намеснікаў Івана Сака. Вырашэнне гэтых пытанняў можа наступіць пасля адпаведных загадаў міністра ўнутраных спраў і начальніка аблупраўлення.

Сяргей Кухарчык ужо другі раз узначальвае аддзел унутраных спраў у Вілейцы. Першы перыяд яго работы тут прыпадаў на 90-я гады, пасля ядоўгі час ён кіраваў аддзелам унутраных спраў у Маладзечне.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Шукаем сведак

24 красавіка 2004 года каля 22 гадзін на 16–м км аўтадарогі Мінск–Калачы–Мядзел невядомы вадзіцель, кіруючы аўтамабілем "Фольксваген–гольф 2" зялёнага колеру, наехаў на грамадзяніна Паўла Аляксандравіча Мартыненку 1976 года нараджэння, які ад атрыманых цялесных пашкоджанняў памер на месцы здарэння. Вадзіцель з месца ДТЗ уцёк. Просім відавочцаў гэтага здарэння патэлефанаваць па нумары 02 або ў Маладзечне па нумары 45340 або 45345.

■ РЭХА ВАЙНЫ



Такі "арсенал" мінулых войнаў сабраны ў Вілейскім ваенным камісарыяце. Фота Ігара КІЦКАВА.

## Работа для сапёраў

**Шэсць дзесяцігоддзяў таму на тэрыторыі нашага рэгіёна прагучалі апошнія выбухі ў ходзе аперацыі "Баграціён". Але і сёння яшчэ зямля хавае смертаносное жалеза.**

Па словах вілейскага раённага ваеннага камісара Аляксандра Равуцкага кожны год на тэрыторыі раёна знаходзяць міны, снарады, гранаты і другія выбухованебяспечныя прадметы. Часцей такія знаходкі здараюцца ў час вясновых палявых работ. Сёлета ўжо зафіксаваны тры выпадкі. У СВК "Карпавічы" знайші снарад, у Даўгінаве – гранату Ф-1, у Кавалях Асіпавіцкага сельсавета – артылерыйскі снарад. Снарады і міны трапляюцца часоў абедзвюх сусветных войнаў. Аляксандр Равуцкі папярэджвае, каб людзі былі асцярожнымі пры земляных работах і ў выпадку падазроных знаходак тэлефанавалі ў ваенны камісарыят.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Рабіце падарункі

**Некалькі тыдняў назад ехаў у Мінск на электрычцы. Маімі суседзямі аказаліся 11–класнікі са Смаргоні, 2 дзяўчынкі і 3 хлопчыкі. Усю дарогу яны абмяркоўвалі, што лепей падарыць сябру адной з дзяўчынак. Двое хлопчыкаў былі за мабільнік, адзін за лічбавы фотаапарат, дзяўчаты ваганіся між мабільнікам і цацкай.**

Радасць блізкіх – лепшая падзяка за падарунак. Фота Petrosoft.

Прыехаўшы дадому я запытаў у сваіх вучняў, што б яны хацелі, каб ім падарылі на дзень нараджэння. У апытанні прыняло ўдзел 29 навучэнцаў ПТВ-200, узрост 17 гадоў, 23 хлопчыкі і 6 дзяўчынак. На 8 чалавек выказаліся за камп'ютэр і матацыкл, 4 за мабільнік, па 2 за мяккую цацку і жывога сабаку, па адным за малпу, каня, машыну і нават месяц! Хлопцы былі ў асноўным за "тэхніку", дзяўчаты за цацкі і жывёл.

Было гэта ў пачатку васьмідзесятых, тады амаль усе хлопцы слухалі "Бітлоў" і хадзілі патлатымі, адным словам, хіпавалі.

Мяне з сябрам запрасіла на дзень нараджэння дзяўчынка. Грошай на падарунак у нас хапала, але ў магазіне не знайшлося, чаго–небудзь "стылёвага". Тады сябар прынёс з дому нейкую бліскучую трубу, падобную на саксафон і патлумачыў, што труба бацькава. Праўда для чаго яна, ён не ведае, але можна выдаць яе за абстрактную фігуру, якую на захадзе вешаюць на сцяну. Так і зрабілі. Дзяўчынка з задавальненнем прыняла наш падарунак і мы добра павесяліліся. Назаўтра сябар прыйшоў да мяне ў кепскім настроі, бацька выдаў яму за трубу, гэта аказалася частка фінскай сантэхнікі.

Мы купілі кнігу Мапасана і пайшлі абменьваць яе на трубу. Гэта аказалася не так лёгка, яна вісела на сцяне і вельмі падабалася гаспадыні...

Тры гады таму паехаў з жонкай на дачу адсвяткаваць яе дзень нараджэння. Там жа раніцай у падарунак накасіў вядро рамонкаў. На, што яна шматзначна сказала: "Дзякуй!" Назаўтра ў госці прыехаў сябар з жонкай. Яна карэнная мінчанка, якой усё жыццё ёй дарылі толькі ружы, бясконца зайздросціла маёй жонцы.

Такім чынам, пры выбары падарунка паспрабуйце высветліць, што падабаецца вашаму сябру ці сяброўцы. Па–другое, ім можа спадабацца тое, над чым вы жартуеце і наадварот тое, што вы прымаеце ўсур'ёз, яны могуць прыняць як жарт. А наогул, дарэнне падарункаў – той від дзейнасці, дзе лепей вучыцца на сваіх памылках.

Адкрыты ўрок вядзе Ігар КІЦІКАЎ, kitikoff@tut.by.

■ ХВАРОБА ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

## ВІЧ не дрэмле

**МІНСК. З пачатку года ў Мінску зарэгістравана 57 выпадкаў заражэння ВІЧ-інфекцыяй.**

Як паведаміла БелаПАН загадчыца аддзела прафілактыкі СНІД Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Лілія Мялешка, на сёння Мінск з'яўляецца другім пасля Гомельскай вобласці па ўзроўню распаўсюджанасці ВІЧ-інфекцыі. Так, у Гомельскай вобласці зарэгістравана 3 тысячы 399 выпадкаў, у Мінску — 836 выпадкаў, у тым ліку 57 выпадкаў у сталіцы выяўлена з пачатку 2004 года. Паводле апошніх звестак, усяго ў Беларусі афіцыйна зарэгістравана 5 тысяч 816 ВІЧ-пазітыўных.

У эпідэмічны працэс уцягнуты ўсе раёны Мінска. Найбольшая колькасць ВІЧ-пазітыўных жывуць у Заводскім раёне — 24,9 % (208 чалавек) і ў Маскоўскім раёне — 11,6 % (97 выпадкаў).

Пераважная большасць інфіцыраваных — маладыя людзі ва ўзросце 20—29 гадоў — 69,6 % ад агульнай колькасці захварэўшых.

Асноўнай прычынай заражэння застаецца ін'екцыйнае ўвядзенне наркотыкаў — 72,1 працэнта выпадкаў. Апрача таго, апошнім часам адзначаны рост інфіцыравання людзей у выніку сексуальных кантактаў: калі ў 2002 годзе было зафіксавана 24,5 працэнта такіх выпадкаў, у 2003 годзе — 30,3 працэнта, то з пачатку гэтага года — ужо 36,8 працэнта.

Паводле БелаПАН.

■ КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТРА

Загадчыца аддзела маркетынгу Смаргонскай цэнтральнай бібліятэкі Тацццяна Камароўская і галоўны бібліятэкар, нязменная вядучая вечароў у літаратурна-музычнай гасцёўні "Сустрэчы" Галіна Каравай, працуюць над сцэнарыем чарговага мерапрыемства. Фота Марыны СЛІЖ.

## На агеньчык

**СМАРГОНЬ. Цэнтральная бібліятэка ніколі не была проста сховішчам кніг. Для гараджан гэта месца, дзе можна даведацца штосьці новае, культурна адпачыць, пазнаёміцца з цікавымі людзьмі.**

"Амаль усе сустрэчы, — расказвае загадчыца аддзялення маркетынгу **Тацццяна Камароўская**, — праходзяць у літаратурна-музычнай гасцёўні. Хто толькі не заходзіў за гэты час на наш агеньчык. Праводзілі мерапрыемствы прысвечаныя Дню пажылых людзей, вечарыну-успамін аб студэнцкіх гадах, сустрэчу з юрыстам. Былі ў "Сустрэчы", так называецца гасцёўня, і старэйшыя жыхары горада **Анатоль Мінкоўскі і Андрэй Мускі**. Ветэраны дзяліліся сваім жыццёвым вопытам, успамінамі пра мінулае".

Існуе меркаванне, што назва "Смаргонь" пайшла ад балцкага тапоніма і перакладаецца як "горад майстроў". Людзей таленавітых, адораных, тут і сапраўды шмат. Узяць хаця б **Людмілу і Аляксандра Мускіх**, якія займаюцца пляценнем лазы. Кажуць, што гэта для іх проста хобі. Тым не менш, сталі пераможцамі нацыянальнага конкурсу. "Ладзіла "Гасцёўня", — расказвае Тацццяна Камароўская, — і сустрэчу з **Зоф'яй Войткай**, жанчынай, якая займаецца вышыўкай, а таксама **братамі Нагаевымі**". Сяргей і Кірыл – адзіныя ў Гродзенскай вобласці народныя майстры-ганчары. Гліна для іх, бы жывая істота, з якой можна гаварыць, раіцца, якую можна пераўтварыць у сапраўдныя творы мастацтва.

Доўга гаварылі ў Смаргоні пра прэзентацыю кнігі **Сяргея Верамейчыка** "Міхал Клеафас Агінскі". Людзей цікавіла ўсё: гісторыя яе стварэння, асоба аўтара, запомніліся каляндныя вечары і вечар рамансаў. А бібліятэкары працуюць над новымі сцэнарыямі.

Марына СЛІЖ.

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**

Анеля Катковіч
Вэраніка Катковіч-Клентак
*Успаміны*

# Ад Будслава да ГУЛАГа

Адразу на голую сьпіну манашкі насела машкара й так пакусала, што пайшла кроў, а яна не магла яе адагнаць, бо мела занятыя рукі. Хадзіла толькі й паўтарала: „Господи, прости ему". Нарэшце упала. Тады паклікаў мяне стражнік да сябе й прыказаў падняць манашку на ногі, гаворачы: „Калі ты гэтага ня зробіш, сама будзеш хадзіць, як яна, разьдзетая". Чаму ён мяне выбраў, ня ведаю, відаць не падабалася яму, што была адна з найслабейшых. Пачала я прасіць бабку, каб мяне пашкадавала й даўжэй не ўпіралася. Нічога не памагло. Тады стражнік загадаў усім разысціся на бакі, паставіў бабку пад дрэва й накіраваў процiў яе ружжо. Выстраліў, але ўбок, і старушкі не застрэліў, асталася жывая, ды працаваць не пачала.

Часта стражнікі, ідучы з намі дарогай, калі мы несьлі на сьпінах калодкі, прыказвалі затрымацца, зьняць на камарнікі, трымаць у руках калодкі — любаваліся, як нас абсядала машкара й кусала, а мы не маглі бараніцца. А было невыносна горача, паліла сонца й страшэнна хацелася нам піць, а мне да таго-ж так балела галава!

Аднойчы пайшлі мы ў лес па дровы ўжо напілаваныя. Трэба было ўзяць па калодцы й несьці яе назад на плячах. Калі мы прыйшлі на месца, мацнейшыя жанчыны кінуліся да кучы дроў і выбралі сабе калодкі лягчэйшыя. Я, слабая, дабілася да кучы апошняя й асталася для мяне самая цяжкая калода. Зразумела, што я зь ёй адставала па дарозе ад іншых. Заўважыўшы гэта вартаўнік пачаў мяне падганяць. Біў ён мяне па галаве, паграджаў, што застрэліць, ды нічога не памагала. Усьцяж я была ззаду. Калі нарэшце дайшлі мы да лагера і ўсе жанчыны свае калодкі з плячэй скінулі, вартаўнік загадаў мне з калодкай прайсьці некалькі разоў кругом двара, на каторым я страціла прытомнасьць і ўпала.

Калісь зноў загадалі нам ісьці па муку на станцыю адлеглую ад лагера 7 км. Аграмадныя мяхі з мукой трэба было перавесьці на палку і ўзяць на плечы дзьвюм асобам. Я ніяк не магла крануць мяшка з месца. Ізноў вартаўнік біў мяне па галаве й штурхаў, крычаў з усёй сілы, ды нічога не памагала. Я мяшка не скранула. І адчувала я сябе тады вельмі кепска —мела свой час. Калі прыйшлі ў лагер, вартаўнік заявіў начальству, што я адказалася ад работы. Загадалі пасадзіць мяне ў карцар. Аказуся людскім вартаўнік, які мяне вёў у карцар. Калі адчыняў дзьверы карцара, я сказала: „Я такая хворая, мне так страшна галава баліць, і маю свой час сёньня". Чуючы гэта, павярнуў ён са мною й пайшоў у санчасьць праверыць, ці гавару я праўду. Там паверылі й адпусцілі мяне.

З гэтага лагера, пасьля некалькімесячнага „отдыха" пасталі мяне зноў на лесапавал, але там не была я доўга й трапіла ў лагер, дзе шчыпалі сьлюду. Работа гэта была лягчэйшая, але вельмі нездаровая, бо трэба было цэлы дзень і наперамен цэлую ноч дыхаць пылам. Працавалі мы на дзьве зьмены. Адзін тыдзень ночку, адзін удзень. Сьвятаў нікіх ня зналі. Спалі мала, бо пасьля начной працы заўсёды знаходзілі нейкую дзённую работу. Трэба было то разгружаць вагоны, то йсьці ў гарнізон мыць падлогі ці пілаваць дровы, то зноў сьнег адкідаць. Ах, гэты гарнізон, як ён надаеў мне! Часамі ў нядзелю брыгада адпачывала, але не я. У нядзелі палілі лазьню для гарнізона й трэба было заўсёды пасылаць некалькі чалавек туды. Брыгадзірка пачынала назначаць работнікаў да гэтай працы ад мяне, бо я ня мела пасылак, не дзялілася зь ёй імі й не ўмела так, як іншыя, бараніцца. А работа была такая: напілаваць дроў, насячы іх і выцягнуць са студні абмерзлым вядром вады ды напоўніць тры аграмадныя кадзі. Студня была так абледзянелая й то пры самай зямлі, што было страшна над ёй стаяць. Можна было лёгка пасьлізнуцца і ўляцець у ваду. Шост быў таксама абледзянелы й сьлізкі. Выцягнутае вядро падымалася ўверх, а там стаяла жанчына пры карытцы і ўлівала ў яго ваду. Рукавіцы былі замерзлыя, рукі халодныя, бушлат абледзянелы, валёнкі таксама, з носа лілося, вейкі склеены. Працавалі так ад раніцы да позьняй ночы. Такая была мая кожная нядзеля. Галаўны боль мацнеў. Людзі паміралі раптоўнай сьмерцяй. Толькі й чуваць было расказы аб чыёйсьці сьмерці. Адна жанчына пачала сьнег адкідаць і ўпала мёртвая, другая нагнулася падлогу мыць і павалілася. Трэцяя несла дровы й не данесла да барака, чацьвертая везучы ваду ў бочцы, падперла сабой пахіленую бочку і ўпала, пятая шчыпаючы сьлюду памерла... І так без канца. Памерла й мая прыяцелька Галіна Кобяк, якая тэрмін ужо канчала й да дзяцей у Баранавічы зьбіралася. Яе сьмерць была для мяне вялікім ударам.

Анеля КАТКОВІЧ.

Працяг будзе.

■ НАВУЧЫЦЕСЯ З ХВАРОБАЙ ЖЫЦЬ

# Бранхіяльная астма

**Склалася традыцыя лічыць бранхіяльную астму ў дзяцей захворваннем выключна алергічнай прыроды. Але чарговы прыступ могуць справакаваць і іншыя фактары.**

Калі ў дзіцяці спадчынная схільнасць да захворвання, то яго можна прадухіліць псіхапедагагічнай прафілактыкай, арганізацыяй быту, вучобы і адпачынку. Хаця, магчыма гэта не заўсёды. Практыка паказвае, што каля 1/4 дзяцей хворых на бранхіяльную астму жывуць у сем'ях, дзе бацькі п'юць, каля 1/3 у няпоўных, ці сем'ях, дзе адносіны паміж тымі, што нарадзілі, залішне напружаныя. Развод не прыносіць палёгкі. Ён наадварот, правакуе і абвастрае хваробу.

І толькі ў нязначнай колькасці сем'яў мікраклімат дабратворны. Тут бацькі не проста імкнуцца да гармоніі ў адносінах з дзецьмі, яны робяць усё, каб лішні раз не парушыць іх пакой, акружыць пяшчотай і цеплынёй. Згадзіцеся, ва ўмовах рынку зрабіць гэта куды цяжэй, чым купіць дарагія лекі.



Многія лічаць, што бранхіяльная астма ў дзяцей захворванне алергічнай прыроды. Але чарговы прыступ могуць справакаваць і іншыя фактары.

Фота ByMedia.Net.

## Навучыцеся з хваробай жыць

Шырокія магчымасці для псіхапрафілактыкі адкрывае сістэма творчага самавыяўлення: маляванне, лепка, танец, тэхнічная і літаратурная творчасць, перапіска. Накладанне забаронаў толькі ўзмацняе ў дзіцяці пачуццё трывогі і комплекс непаўнацэннасці. Калі немагчыма вылечыць хваробу, трэба навучыцца з ёй жыць.

З улікам узросту з дзецьмі праводзяць гутаркі на тэму: "Што такое астма і як яна ўздзейнічае на маё цела", "Чаму ў мяне астма і што яна ўносіць у маё жыццё", " Што і як трэба рабіць, як прымаць рашэнні". Калі дзіця не мае аб'ектыўнай інфармацыі, як яму жыць са сваёй праблемай, то яно адмаўляе ў сілу псіхалагічнай самаабароны наяўнасць у сябе хваробы і не выконвае рэкамендацый.

З'яўляючыся членам грамадства чалавек прывыкае да думкі, што аб ім павінен хтосьці клапаціцца. Часта гэта звычка прыводзіць да трагічнага зыходу. Прыкладам таму трагедыя, якая адбылася з трынаццацігадовым хлопчыкам. Маці адправіла яго ў вёску да бабулі, а лякарства з традыцыйных сродкаў першай медыцынскай дапамогі пры дыхальнай недастатковасці, не дала. Калі ў хлопчыка пачаўся прыступ, бабуля выклікала яе па тэлефоне. Прыехала яна хутка, вёска знаходзіцца недалёка ад горада, але было ўжо позна. Сын памёр у яе на руках. Чаму не выклікалі "Хуткую"? Жыццёва неабходнае для гэтага дзіцяці лякарства рэдка выкарыстоўваецца ў паўсядзённай клінічнай практыцы і не ўваходзіць у пералік для камплектавання брыгад "Хуткай дапамогі". Можна меркаваць, што страх адсутнасці якой-небудзь дапамогі і справакаваў у дзіцяці парушэнні сардэчна-сасудзістай сістэмы.

## «Свой-чужы»

Існуе яшчэ адзін від алергіі – харчовы, пры якой ў хворых назіраюцца сапраўды спажывецкія адносіны да медыцыны. У людзей спрацоўвае думка, што можна ўжываць любыя прадукты харчавання, галоўнае, заядаць іх спецыяльным прэпаратам. А між тым, алергічная рэакцыя працякае ў тры фазы. Першая, імуналагічная – калі клетка ўзаемадзейнічае з рэчывам, што паступіла ў арганізм і ўспрымае яго па прынцыпу "свой-чужы". Другая – патахімічная, калі ў кроў паступаюць неспрыяльныя рэчывы. І трэцяя, патафізіялагічная фаза. У час яе імунныя і біяхімічныя працэсы выклікаюць змяненні ў рабоце органаў і сістэм. Супрацьалергічныя прэпараты ўздзейнічаюць на другую і трэцюю фазы, звязваюць неспрыяльныя рэчывы і карэктуюць функцыю органаў. Лекаў, якія б дзейнічалі на сістэму "свой-чужы", не створана.

## Харчуйцеся правільна

Даўно мінулі тыя часы, калі маці маглі карміць немаўлят грудзьмі да 7 месяцаў. Як толькі гэты ідэальны стандарт стаў недасягальным, у дзіцячае меню сталі ўсё часцей трапляць кілбасы, чыпсы, экзатычныя фрукты і сокі, на якія іх арганізм рэагуе як на "чужыя". Чым жа карміць, спытаеце вы? Крупамі, гароднінай, мясам, рыбай. Дарэчы, ягурты ў дзіцячых алерголагаў таксама не карыстаюцца асаблівай папулярнасцю, як і памперсы ва ўролагаў і нефролагаў.

Ніхто не кажа, што з дзіцячага меню кілбаса, альбо апельсіны, павінны быць выключаны на ўсё жыццё. Як толькі імунная сістэма паспее, можна даваць пэўную колькасць як сокаў, так і кандытарскіх вырабаў, ягуртаў, тых жа сасісак, каўбас. Галоўнае – у меру і з розумам.



Доктар Аляксандр ГУЛАК.

■ ТРАЎНІК



## У расліны дзевяць сіл

**Дзівасіл (Inula)— шматгадовая расліна да паўтара метра ў вышыню. Сцябло яе пакрытае кароткімі валаскамі і толькі ўверсе, разгаліноўваючыся, заканчваецца кветкамі-карзінкамі 7-8 сантыметраў у дыяметры. Лісты буйныя, кветкі жоўтыя.**

Размнажаецца насеннем ці кавалкамі карэнішча, на якіх ёсць пупышкі аднаўлення. Яго можна знайсці на берагах рэк, азёр, на вільготных лугах, сярод кустоўя ў ліставым лесе. Многія гаспадыні вырошчваюць дзівасіл у агародзе і кожны год рыхтуюць лекавую настойку.

Збор і сушка. Збіраюць дзівасіл у жніўні-кастрычніку альбо ранняй вясной, калі з'яўляюцца яго першыя лісточкі. Сушаць да таго часу, пакуль карэнішча не стане цвёрдым, а карэнні – ломкімі.

Дзеянне і прымяненне. Водны настой з карэнішча і каранёў дзівасілу (5-10 г на 200 мл. вады) валодае супрацьзапаленчым, антысептычным, жаўцягонным і мачагонным дзеяннямі, паляпшае апетыт.

Адвар кораня прызначаюць для паласкання пры запаленні дзяснаў, пры лячэнні ран, што цяжка зажываюць, прымочак, кампрэсаў.

Уваходзіць гэта лекавая расліна ў склад збораў, назначаных пры сухім плеўрыце, сардэчнай астме, эпілепсіі. Выкарыстоўваюць у народнай медыцыне пры лячэнні рэўматызму, вадзянкі, экзэмы і іншых скурных захворванняў.

Падрыхтавала Марына СЛІЖ.

■ САМ САБЕ ДОКТАР

# Лечымся яблычным воцатам

■ Яблычны воцат дапамагае пры вадзянцы, узбуджае апетыт.

■ Карысны пры частых галаўных болях, атлусценні, нездавальняючай рабоце сэрца. Прымяняюць воцат па 1-2 чайныя лыжкі ў дзень, папярэдне растварыўшы ў шклянцы вады.

■ Пры варыкозным расшырэнні вен воцат п'юць з вадой тры разы ў дзень па 2 чайныя лыжкі і адначасова расціраюць варыкозныя ўчасткі.

■ Карысны ад герпесу і рожы.

■ Калі пакласці на рану сурвэтку, змочаную воцатам, то яна не дазволіць утварыцца пухліне.

■ Пара гарачага воцату дапамагае пры тугавухасці, а таксама спыняе шум у вушах.

■ Пры хранічным танзіліце і ангіне паласканне поласці рота растворам воцату (2 чайныя лыжкі на шклянку вады) прыносіць добры вынік.

■ У шклянку нацёртых буракоў дабавіць адну сталовую лыжку воцату і гэтым саставам паласкаць горла пра ангіне і танзіліце.

■ Зводзіць плямы на скуры.

■ Дапамагае пры экзэме і язвах, папярэднічае распаўсюджанню гангрэны.

■ Пры апёках агнём прыносіць палёгку хутчэй, чым якінебудзь іншы сродак.

■ У сумесі з аліўкавым алеем дапамагае пры галаўным болі, калі яго прыкласці да ілба ці патыліцы на марлевай сурвэтцы.

## Рэцэпт прыгатавання яблычнага воцату

Яблыкі (пажадана кіслых гатункаў) нацерці на буйной тарцы разам са скуркай. Атрыманую кашку заліць вадой пакаёвай тэмпературы з разліку 1,25 літра на 1 кілаграм яблыкаў. На кожны літр вады дадаць 100 грамаў мёду альбо цукру, а таксама 10 грамаў хлебных дражджэй і 20 грамаў сухога чорнага хлеба. Посуд з гэтай сумессю захоўваюць у адкрытым выглядзе пры тэмпературы 20-30 градусаў і перамешваюць 2-3 разы на дзень. Праз 10 дзён сумесь працэджваюць праз некалькі слаёў марлі, адціскаюць і зліваюць у ёмістасць з шырокім горлам. Дадаюць на кожны літр 100 грамаў мёду альбо цукру і захоўваюць посуд у тых жа ўмовах, што і раней, ад 40 да 60 дзён (у залежнасці ад тэмпературы).

Воцат зліваюць з дапамогай гумовай трубкі і разліваюць па бутэльках. Кожная бутэлька шчыльна закрываецца коркам і заліваецца воскам. Захоўваюць воцат пры пакаёвай тэмпературы.



Пра тое, што яблыкі крыніца вітамінаў — ведаюць многія. Але з іх можна яшчэ прыгатаваць яблычны воцат, які дапамагае ад добрага дзесятка хвароб.

Фота з архіву "РГ".

# Шанц для Беларусі не страчаны

**У панядзелак у Маладзечне правяла сустрэчу Міжнародная асацыяцыя выпускнікоў Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Тэмай спатканння была эканоміка малога бізнесу, у кантэксце эканамічнага развіцця Беларусі. Арганізатары запрасілі на гутарку кандыдата гістарычных навук Аляксея Караля, прафесара Станіслава Багданкевіча і кіраўніка аналітычнага цэнтра "Стратэгія" Леаніда Заіку.**



**Леанід Заіка. Узначальвае аналітычны цэнтр "Стратэгія". Эканаміст. Мае дачыненне да рэалізацыі шмат якіх эканамічных ідэй.** Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

## Не лідэры

На думку Леаніда Заікі на сёння Беларусь страціла статус краіны на постсавецкай прасторы, якая лідзіравала ў колькасных паказчыках. Гаворка пра дынаміку тэмпаў росту валавога унутранага прадукту, прамысловай прадукцыі... Доўгі час, з 95–га, 98–га гадоў у нашай эканоміцы былі высокія тэмпы. Мы гэтым ганарыліся і лічылі, што справы ідуць лепш, чым у любой іншай краіны з былога Савецкага Саюза. Але на сёння такое лідэрства мы страцілі. Хаця мы былі ўперадзе Арменіі, Азербайджана, Грузіі, Украіны, Расіі. І цяпер мы праходзім пробны перыяд эканамічнай гісторыі краіны, які можа вызначыць пагаршэнне нашай будучыні, або набраць нейкі патэнцыял магчымасцяў, рэструктуразаваць і атрымаць шанц на будучае.

Канкурэнцыя узрасла з боку Украіны, Расіі, з боку тых краін, якія ўвайшлі ў Еўрапейскі Саюз. І гэта не проста нейкая пагроза, а праблема, звязаная з нашай будучыняй.

## Заработная плата

Беларусь знаходзіцца на 3–м месцы па ўзроўню сярэднемесячнай заработнай платы ў СНД. Першае займае Расія з 250 доларамі ЗША на працаўніка, У Казахстане – 170, у Беларусі – 130. Хаця быў час, калі сярэдняя зарплата ў Расіі была меншай, чым у Беларусі. Сённяй Расіі моцна прасунулася ў правядзенні ўнутранай эканамічнай палітыкі, на ўзмацненні пазіцый расійскага бізнэсу. Расійскі бізнэс магутны, учэпісты.

Па словах Заікі, да рэвалюцыі расійскіх купцоў баяліся ў Парыжы. Яны паказвалі прыклад, як трэба працаваць, свайё рухавасцю і паваротлівасцю.

Тая тэндэнцыя ў расійскім бізнэсе заўважная. Па ацэнках экспертаў сёлета значная частка расійскага бізнэсу плануе павялічыць сваю дзелавую актыўнасць на 24 – 30%. Расійскі бізнэс разлічвае на магчымую амністыю капіталу, калі ўвесь зароблены ў Расіі капітал не будзе падвяргацца судоваму і іншаму пераследаванню і зможа вярнуцца ў краіну свайго паходжання. Расійскія эксперты лічаць, сказаў Леанід Заіка, што каля 600 мільярдаў долараў можа вярнуцца ў Расію і працаваць у яе эканоміцы. Гэта запусціць тыя механізмы, якія дазволяць не звяртацца за замежнымі інвестыцыямі і развіваць эканоміку ўласнымі сіламі.

## Аб неабходнасці інвестыцый

Леанід Заіка сказаў, што даволі скептычна ставіцца да замежных інвестыцый. Яны не даюць магчымасці вырвацца на апэратыўную прастору і забяспечыць канкурэнтную здольнасць нацыянальнай эканомікі.

Апошнія два гады гісторыя дала Беларусі шанц. Па многіх прагнозах і ў нас, і ў Расіі эканамічная сітуацыя павінна была пагаршацца. Мы павінны былі выйсці на паказчыкі 3–4 % эканамічнай дынамікі, не больш. Але сітуацыя змянілася. Амерыка пачала ваяваць у Іраку, цэны на нафту падскочылі, расійскія нафтавы бізнэс атрымаў добрыя ўмовы, добры рынак. І хаця рост цэн на нафту з–за дарагоўлі сыравіны мог пагоршыць нашу сітуацыю. А атрымалася наадварот. Расійскі бізнэс пачаў "пракачваць" нафту праз Беларусь, г.зн. перапрацоўваць яе ў нас і прадаваць нафтапрадукты на знешніх рынках. Дзякуючы гэтаму летась і сёлета захоўваецца высокая экспартная дынаміка Беларусі – звыш 23%.

## Інавацыйнае лобі

На змену аграрнаму і будаўнічаму лобі, гаворыць Леанід Заіка, прыходзіць лобі інавацыйнае. Але сутнасць не ў тым, каб мы прыдумалі нейкія схемы рэалізацыі навуковага капіталу, а ў тым, каб лібералізаваць эканоміку і тады рынак будзе купляць вынаходніцтвы, патэнты...

Але што на самой справе павінна скласці аснову дынамікі беларускай эканомікі? Ёсць шмат праектаў, гаворыць Леанід Заіка. Многія тысячы актывізацыі малога бізнэсу. Але штука ў тым, што пакуль не прыватызавана вялікая ўласнасць, то малая ўласнасць ўвогуле не ўяўляе ніякага інтарэсу для класу чыноўніцтва, тых людзей, якія складаюць эліту, якая кіруе краінай. Беларусь застаецца адзінай дзяржавай, дзе фамільнае серабро яшчэ не размеркавалі. І калі кіраўнік прадпрыемства не з'яўляецца саўладальнікам, то ён і зрабіць нічога не можа. Пры тым, што яго ў парашок можа сцерці любы чыноўнік...

Калі палітычнае кіраўніцтва краіны не здолее зрабіць таго, каб беларуская бізнэс–эліта была развітай, устойлівай, квітнела, то перспектыва таго, што мы зможам дабіцца развіцця нашых прадпрыемстваў вельмі прывідная. У іншым выпадку мы атрымаем эліту чужую: расійскую, немецкую, турэцкую.

Стварэнне сваёй бізнэс–эліты, лічыць Леанід Заіка, дапаможа Беларусі вырашыць адну з цэнтральных праблем сучаснасці – праблему беднасці.



**На думку эканаміста кіраўніка Аналітычнага цэнтра "Стратэгія" Леаніда Заікі ў Беларусі няма сапраўднага рынку жылля. Таму квадратны метр яго каштуе 450–500 амерыканскіх долараў. Жыллё на беразе акіяна ў Паўднёвай Афрыцы каштуе танней, чым не лепшая кватэра ў Чыжоўцы. Сітуацыя можа змяніцца, калі запрацуюць рынкавыя механізмы. Пра гэта ішла гаворка на сустрэчы, наладжанай Міжнароднай асацыяцыяй выпускнікоў БДУ у панядзелак у Маладзечне.** Фота ByMedia.Net.



**Станіслаў Багданкевіч. У мінулым кіраўнік Нацыянальнага банка Беларусі. Па яго ініцыятыве і пад яго кіраўніцтвам рабіліся спробы пачатку эканамічных рэформ у краіне. Прафесар – навуковец і практык адначасова.** Фота ByMedia.Net.

## Новая альтэрнатыўная канцэпцыя

Станіслаў Багданкевіч адразу заўважыў, што ва ўсіх кутках Беларусі яму даводзіцца чуць пытанне: чаму у нас няма новай канцэпцыі развіцця краіны? "Канцэпцыя ёсць, – сказаў прафесар. – Альтэрнатыўная. Выдадзены кнігі, але па віне СМІ яна не папулярызуецца".

На думку Станіслава Багданкевіча, эканоміка Беларусі крайне неэфектыўная. Нацыянальны прадукт за мінулы год узрос на 6,8%. Добры паказчык. Амерыка расла на 4 з лішкам працэнтаў. Еўропа – на 0,4%. Але ж даўгі за год толькі беларускім камерцыйным банкам выраслі на 74%. Даўгі вонкаваму свету выраслі на 11,3%. Чыстыя даўгі, за мінусам таго, што нам вінаваты, на 1 студзеня склалі 3,4 мільярды долараў. Валавыя ж даўгі склалі больш за 5 мільярдаў долараў. Увесь жа нацыянальны прадукт за мінулы год склаў 17 мільярдаў долараў. Такое развіццё было і ў іншыя гады.

## Чаму яшчэ выплачваецца зарплата

"Чаму ж тады ў нас няма нявыплаты зарплаты? 2 трыльёны рублёў нашы бацькам бы камерцыйныя суверэнныя і самастойныя банкі выдалі па рашэнні ўлады. Пры савецкай уладзе нічога падобнага не было. Я ў вас тут працаваў начальнікам крэдытнага аддзела Дзяржбанка. І мы на зарплату выдавалі толькі пасля таго як міністр дасць вымову дырэктару завода за дапушчаныя перавыдаткі і г.д. Была нейкая сістэма. Свая, адміністрацыйная, савецкая.

Сёння спрацоўвае іншая сістэма. Яна спрацоўвае пакуль. 40% прадпрыемстваў у нас стратныя, а калі скарэктаваць гэта на інфляцыю, то і 2/3. У гадзіннікавага завода 8–месячныя астаткі вытворчасці ляжаць на складзе. А колькі прадукцыі адгружана неплацежаздольнаму рынку? Але нашы прадпрыемствы жывуць. Як мы купляем сыравіну і выплачваем зарплату? Банк дае.

Затрацілі, вырабілі, паклалі на склад... Зноў банк дае. Ці доўга так будзе круціцца? Даволі доўга. Вашы ўклады, а вы, маладзечанцы, багатыя, якія ляжаць у банках, яны ж не ляжаць там, яны выдадзеныя гэтым стратным прадпрыемствам, якія страцілі ўласныя абаротныя сродкі. І таму вашых грошай, калі падыйсці як эканамісту, ужо няма.

## Рост цэн

Вялікая праблема – рост цэн. Ад ліпеня 1994 года да сёлетняга мая цэны ўзраслі ў 2377 разоў. Я і да сённяшняга дня атрымліваю раз'юшаныя пісьмы з абвінавачваннем ў тым, што кагосьці абрабаваў. Нядаўна такое пісьмо прыйшло з Мар'інай Горкі: Багданкевіч аддай хоць частку! Але ж банк вярнуў уклады, яшчэ з працэнтамі. А ў тыя часы гандаль быў дзяржаўным, у нас быў міністр гандлю, міністр эканомікі, міністр фінансаў, прэм'ер–міністр.

І да таго ж банк у нас не суверэнны. Што адрознівае яго ад заходніх, якія валодаюць унутранай аўтаноміяй. Я валодаў нейкай аўтаноміяй. А цяперашні старшыня Нацбанка стаў членам ураду. І рашэнні ўраду для яго абавязковыя. І цяпер рашэнне прынята 100 мільярдаў даць сельскай гаспадарцы пад 2%. Калі інфляцыя 25–30%. І калі вернуць грошы, зноў будзе ўтрата. Дык вось, я хачу сказаць, што нам што ёсць альтэрнатыва, ёсць спецыялісты, якія гатовыя здзейсніць альтэрнатыву, калі народ гэта падтрымае".

Спачатку, на думку Багданкевіча, патрэбна вырашыць праблему росту цэн:

— Можам мы вырашыць, ці мы дурнаватыя? Літоўцы вырашылі гэту праблему, палякі вырашылі, венгры вырашылі, украінцы вырашылі, расіяне вырашылі... І мы сапраўды можам гэта зрабіць. За год, за паўгода... Калі галаве Нацбанка Пятру Пракаповічу проста дадуць аўтаномію.

Знізіць падаткі. Скараціўшы дзяржаўныя расходы, гэта можна зрабіць.

Мяняць ролю дзяржавы. Адна роля – стварэнне справядлівых законаў, другая роля – забеспячэнне адміністрацыйным апаратамі выканание гэтых законаў.

Даць высокі ўзровень эканамічнай свабоды. Бо сілай кулака, адміністрацыйнага рэсурсу нічога немагчыма вырашыць.

Стрыжнем НЭПа, лічыць Багданкевіч, павінна стаць развіццё малога і сярэдняга бізнесу. Але такое развіццё амаль немагчымае без прыватызацыі, якая павінна пачацца з акцыяніравання. І без таго, каб дзяржаўныя прадпрыемствы паставіць у такія ж рынкавыя ўмовы адказнасці, як і прыватныя.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

■ ПАСЛЯ НАДРУКАВАНАГА

# Будслаў – Даўгінава

**У "РГ" №23 ад 4 чэрвеня ў артыкуле "Выстава Драбышэўскага" некалькі радкоў прысвечаны карціне мастака "Будслаўская святыня". Там сказана, што ікона Святой Божай Маці была падараваная ў Рыме папам Клімeнтам VIII мінскаму ваяводзе Яну Пацу, а той ахвяраваў яе Будслаўскаму касцёлу.**

На самой справе падзеі тады адбываліся так. Далёка за межамі нашай краіны вядомы сваёй цудадзейнай сілай адзін з найбольш шанаваных каталіцкіх абрадаў – Будслаўскі абраз Маці Божай. Першым яго ўладальнікам быў мінскі ваявода Ян Пац, атрымаўшы ў 1598 годзе з нагоды яго пераходу з кальвінізму ў каталіцтва гэтую святыню з рук папы Клямэнса VIII і змясціўшы яе ў прыватнай капліцы свайго віленскага палаца. Пасля смерці ў 1610 ваяводы яго капелан ксёндз Ісаак Салока перавёз абраз у Даўгінава, дзе быў камендантам. У вялікую пятніцу 1613 года ён, будучы на богаслужэнні ў будслаўскім, тады яшчэ драўляным касцёле, паддаўся просьбам законнікаў (манахаў) і ахвяраваў абраз, якім станавіўся ўжо шырока вядомым, будслаўскаму кляштару бернардзінцаў.

Яшчэ адна прыгожая гісторыя, больш падобная на паданне, адбылася у Даўгінаве ў 1842 годзе. Праз гэта мястэчка, вяртаючыся на Радзіму пасля доўгіх блуканняў па Сібіры, Урале, Паволжы, Сярэдняй Азіі, зайшоў памаліцца ва ўбогі драўляны касцёлік, пабудаваны Барбарай Камінскай, выдатны беларускі рамантык, удзельнік вызваленчага руху, даследчык прыроды Тамаш Зан.



Даўгінаўскі касцёл сёння. Фота "Глобус Беларусі".

**Тамаш Зан** нарадзіўся 21 снежня 1796 года ў сям'і збяднелага шляхціца ў Мясоце ля Маладзечна. Яго бацька неўзабаве набыў фальварак Селішча (сучасны Вілейскі раён), а дзед паэта жыў у Вязыні.

Выходзячы з касцёла, Тамаш сустрэў ксяндза, у якім пазнаў свайго даўняга сябра, члена таварыства філарэтаў Юзафа Львовіча. Яны шчыра павіталіся і пусціліся ва ўспаміны.

**Юзаф Львовіч** (1784 – 1857) нарадзіўся на Валыні. Атрымаўшы вышэйшую адукацыю, працаваў выкладчыкам матэматыкі ў калегіуме ў Полацку, дзе таксама пашырыўся рух філарэтаў, трымаў трывалую сувязь з Вільняй. Тайная арганізацыя і тут была раскрытая, а Юзафа разам з двума таварышамі арыштавалі, а пазней, пасля заканчэння справы, пазбавілі выкладчыцкых правоў. З 1842 года і канца свайго жыцця ён выконваў абавязкі пробашча Даўгінаўскага касцёла і адначасова дэкана Вілейскага дэканата.

На развітанне Тамаш Зан запытаў у Львовіча наконт убогасці касцёла, на што апошні адказаў, што людзі тут вельмі бедныя, і ён не можа прасіць у іх дапамогі. Зан дастаў з кішэні табакерку, якую яму зрабілі з разведанага ім радовішча золата ўдзячныя купцы і сказаў: "Слухай, браце, ты пабудуеш мураваны касцёл, а на пачатак вазьмі залатую табакерку. У адказ Львовіч вымавіў: "Ты не маеш ні кавалка зямлі, на табе залатоўкі і купі яе". Пазней гаварылі, што ксёндз за табакерку Зана пабудаваў ў 1853 годзе касцёл, а Зан за золата ксяндза купіў вёску.

Юзаф Львовіч, як чалавек добрай душы і вельмі адукаваны, усяляк дапамагаў простаму люду, славіўся як добры народны лекар. Да яго цягнуліся з апошняй надзеяй людзі з розных куткоў Беларусі, Літвы і Польшчы, чым і было праслаўлена Даўгінава.

Адам Міцкевіч увекавечыў яго вобраз ў трэцяй частцы вядомай паэтычнай драмай "Дзяды". Вялікі паэт вельмі цаніў дружбу, меў многа сяброў, якіх пазней лёс параскідаў па ўсім свеце.

**Анатоль РОГАЧ.**

■ ЗЕМЛЯКІ



Фота з архіва «РГ».

## Міністр Башкартастана з Краснага

**Маладзечанскае мястэчка Краснае здаўна сілкавала навуку і ўладу, культуру і мастацтва сваімі ўраджэнцамі. І не толькі ў Беларусі, але і па ўсім свеце. Згадаем і такі прыклад...**

Леў Бакусаў, які нарадзіўся ў Красным тады яшчэ Радашкавіцкага раёна 11 кастрычніка 1949 года, у 1992 годзе быў прызначаны міністрам працы і занятасці Рэспублікі Башкартастан. Як, праз якія церніі прыйшоў да гэтай высокай пасады наш зямляк?.. У 1971 годзе закончыў Уфінскі авіяцыйны інстытут. Некаторы час працаваў ва Уральскім філіяле НДІ авіяцыйнай прамысловасці. Пасля – інструктар Кастрычніцкага райкама КПСС ва Уфе. Займаў і шэраг іншых пасад у райкаме і райсавеце. У 1990 годзе Льва Міхайлавіча прызначылі першым намеснікам старшыні Дзяржплана Башкірскай АССР. А ў 1991 – першым намеснікам міністра эканомікі Рэспублікі Башкартастан. Пасля — гады напружанай работы ці не ў самай гарачай сацыяльнай галіне. У выніку рэфармавання ўрада ў 1998 годзе Леў Міхайлавіч ужо з'яўляецца міністрам працы, занятасці і сацыяльнай абароны. Насельніцтва Башкартастана складае больш за 4 мільёны чалавек. Лічы, краіна! 54 адміністрацыйныя раёны, 21 горад, 40 пасёлкаў гарадскога тыпу...

Цяпер Леў Бакусаў займаецца заканатворчай дзейнасцю, з'яўляецца дэпутатам Дзяржаўнага Сходу – Курултая – Рэспублікі Башкартастан. Калегі па парламенту даверылі нашаму земляку адказны абсяг працы: абралі Льва Бакусава старшынёй камітэта па бюджэту, фінансах і пытаннях уласнасці.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ КАЛЯНДАР

**19 чэрвеня. 80 гадоў з дня нараджэння Васіля Быкава.** (1924, Ушацкі р-н - 2003), народны пісьменнік Беларусі, грамадскі дзеяч, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я.Коласа (1964 г.), Дзяржаўнай прэміі СССР (1974 г.), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я.Коласа (1978 г.), Ленінскай прэміі (1986 г.), расійскай прэміі «Трыумф» (1999 г.).

Ён памёр летась 22-га чэрвеня ў рэанімацыйным аддзяленні анкалагічнага шпіталю ў Бараўлянах, што пад Мінскам. Васіль Быкаў быў пры жыцці прызнаны класікам сусветнай літаратуры. З сярэдзіны 90-х супраць Васіля Быкава за яго незалежніцкую дзейнасць была ўзнятая хваля цкавання ў дзяржаўных СМІ; дзяржаўныя друкарні адмаўляліся выпускаць яго новыя кнігі. Некалькі апошніх гадоў В. Быкаў быў вымушаны правесці за мяжой: спачатку па запрашэнні міжнароднага ПЭН-цэнтра жыў у Фінляндыі і Нямеччыне, а затым пераехаў у Чэхію, дзе ўвесну г.г. перанёс аперацыю па выдаленні ракавай пухліны страўніка.



**23 чэрвеня. 60 год з пачатку Беларускай аперацыі 1944 г. («Баграціён»)**, адна з найбуйнейшых наступальных аперацый Савецкай Арміі ў Вялікую Айчынную вайну па вызваленні Беларусі (чэрвень-жнівень 1944).

■ КАЛЕКЦЫЯНЕРУ

# Новыя манеты

**Нацыянальны Банк Рэспублікі Беларусь, па інфармацыі БелаПАН, з 8 чэрвеня ўвёў у абарачэнне памятныя манеты, прысвечаныя сяткаванню 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

У серыю ўваходзяць сярэбраныя манеты вартасцю 20 рублёў і медна-нікелевыя вартасцю 1 рубель. Яны прысвечаны беларускім партызанам, воінам-вызваліцелям, ахвярам фашызму і абаронцам Брэсцкай крэпасці.

Манеты круглыя, сярэбраныя маюць дыяметр 38,61 міліметра, медна-нікелевыя – 33 міліметры. Бакавая паверхня рыфленая. На пярэднім баку ўверсе размешчаная рэльефная выява дзяржаўнага герба Беларусі, у цэнтры – рэльефная выява ордэна Айчыннай вайны. Адваротны бок аформлены ў залежнасці ад прысвячэння: на манетах, прысвечаных беларускім партызанам – выява партызанаў на фоне чыгункі; у цэнтры манет, прысвечаных ахвярам фашызму, – скульптура "Непакораны чалавек"; выява воіна з аўтаматам на фоне танкавай бітвы – на манетах, прысвечаных савецкім воінам; рэльефная выява манумента "Мужнасць" – на манетах, прысвечаных абаронцам Брэсцкай крэпасці.

Аднак у Маладзечне іх пакуль нельга набыць. Маладзечанскае аддзяленне банка, па словах начальніка аддзела касавых аперацый Маладзечанскага аддзялення Нацбанку Ларысы Ключнік, атрымае новыя манеты да канца гэтага месяца. Сярэбраная вартасцю 20 рублёў каштуе 15 долараў, медна-нікелевая вартасцю 1 рубель – 2,5 долара. Іх можна будзе набыць за беларускія рублі па курсе Нацбанка. Асобна прадаюцца футляры для захоўвання манет. Размешчаны на адну каштуе 6840 рублёў.





Памятная манета Нацбанка з серыі "Ахова навакольнага асяроддзя", зробленая з медна-нікелевага сплаву. Фота Святланы ЦІШКО.

Цяпер у Маладзечанскім аддзяленні ёсць экземпляры з іншых серый: "Фізкультура і спорт", "Беларусь і сусветная супольнасць", "Ахова навакольнага асяроддзя", "Гісторыя і культура Беларусі". Ёсць нават адна манета вартасцю 100 рублёў "Беларускі балет", вялікая, як медаль.

Усе манеты прадаюцца ў абарончых празрыстых капсулах, да большасці прыкладаецца сертыфікат сапраўднасці.

У Беларусі выпускам памятных манет займаецца толькі Нацыянальны банк. Першая беларуская манета з'явілася ў 1996 годзе і была прысвечаная 50-годдзю ААН. Чаканяць іх за мяжой. Значная частка заказаў прыпадае на "Дзяржаўны манетны двор" Польшчы. Чаканяць таксама і на Маскоўскім манетным двары, Літоўскім манетным двары, у Германіі, Швейцарыі. Для сярэбраных манет выкарыстоўваюць найвышэйшую пробу серабра – 925 пробы. Бываюць таксама залатыя, з золата 999 пробы, каштуюць да 150 долараў.

Усе манеты, выпушчаныя ў абарачэнне, з'яўляюцца законным плацежным сродкам Рэспублікі Беларусь, імі можна разлічвацца на ўсёй тэрыторыі краіны пры ўсіх відах плацяжоў. Аднак іх прымаюць па намінальнай вартасці – 100, 20 рублёў або 1 рубель, незалежна ад таго, колькі каштавала манета. Так што разлічвацца імі нявыгадна. Таму набываюць памятныя манеты, сказала Ларыса Ключнік, у асноўным калекцыянеры-нумізматы.

Акрамя манет, Нацбанк выпускае памятныя банкноты "Міленіум" вартасцю 1, 5, 10, 20, 100, 500, 1000, 5000 і 10000, пагашаныя спецыяльным надпісам–штампам "Millennium".

**Святлана ЦІШКО.**

■ ІНВАСПОРТ

# Падрыхтоўка ў разгары

**Засталося тры месяцы да старту Паралімпійскіх гульняў. Падрыхтоўка маладзечанскіх спартсменаў выходзіць на фінішную прамую.**

Ігар Фартунаў у красавіку быў на зборах у Кіпры, а напрыканцы мая ён паспрабаваў свае сілы на турніры ў Літве, дзе выйграў бег на 100 м. Зараз Ігар, якога трэніруе Георгій Шэлег, імкнецца як след падрыхтавацца нетрадыцыйныя для сябе кіданне дыску і штурханне ядра, якія спатрэбяцца яму ў Афінах пры выступленні ў пяціборстве. Пачынаючы з ліпеня, планіруе набіраць "баявую форму" ў сваіх каронных відах. Наперадзе ў яго два цэнтралізаваныя зборы і адкрыты чэмпіянат краіны.

**Віктар Жукоўскі** таксама спаборнічаў у Літве, выйграўшы скачкі ў даўжыню. Ён трэніруецца са сваім памочнікам **Анатолем Панковым** у родным горадзе. Тут яму найбольш камфортна: яма для прызямлення ў скачках мае патрэбныя пяць метраў у шырыню. Калі ж адпраўляцца на выязныя зборы, то Віктар, які цалкам невідушчы, будзе адчуваць зразумелы псіхалагічны дыскамфорт пры занятках у невядомым сектары.

**Васіль Шапцібой** з лідэрам **Аляксандрам Данілікам** будуць у Афінах адзіным беларускім мужчынскім велатандэмам. Яны выязджалі на шматдзённыя гонкі ў Польшчу і Бельгію, дзе занялі адпаведна першае і другое месцы. Хаця на Гульнях "шматдзёнка" не прадугледжана, але ўдзел у такіх стартах дае важны трэніровачны эфект. Наперадзе яшчэ адно спаборніцтва ў Польшчы, потым будуць зборы ў гарах у Аўстрыі і на трэку Крылатскае ў Маскве.

Ад'езд беларускіх спартсменаў у Грэцыю запланаваны на 10 верасня, роўна за тыдзень да пачатку Гульняў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



Цалкам невідушчы Віктар Жукоўскі лічыць за лепшае ўвесь час трэніравацца ў Маладзечне – тут яму найбольш зручна. Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

■ ФУТБОЛ, ЕЎРА-2004

## Уражанні ад першага тура

**Чэмпіянат Еўропы па футболу пачаўся на стадыёнах Партугаліі 12 чэрвеня. Шаснаццаць зборных падзелены на чатыры групы. Па двое лепшых працягнуць барацьбу ў чвэрцьфінале. Каляндар матчаў складзены вельмі зручна: у адзін дзень гуляюць каманды толькі адной групы.**

З суботы па аўторак стартавалі ўсе ўдзельнікі. Пераможцу прадказаць зараз немагчыма хаця б таму, што турнір толькі распачаўся, а, напрыклад, будучыя фіналісты мусяць правесці па шэсць сустрэч. Першы погляд дазваляе зрабіць пэўныя эмацыянальныя суб'ектыўныя вывады.

Акрэслілася група каманд, чые дзеянні не надта спадабаліся: нафрад ці, змогуць стаць чэмпіёнамі Расія, Швейцарыя, Харватыя, Балгарыя, Латвія.

Гульню большасці зборных варта ацэньваць, зыходзячы з таго, хто ім супрацьстаяў. Падавала сваіх прыхільнікаў Грэцыя, а Партугалія – засмуціла. Англіі трэба паспець аднавіцца ад псіхалагічнага ўдару. Не зусім упэўнены перамогі атрымалі Іспанія і Чэхія. Дастойнымі баявымі нічымі завяршыліся гульні з удзелам Італіі, Даніі, Германіі, Галандыі. Усе гэтыя каманды дзейнічалі цікава для балельшчыкаў, асобнымі момантамі ўзрушана і моцна.

Ужо толькі пасля аднаго матча надоўга запомніцца выступленне Францыі і Швецыі. Першыя ўразілі сваёй воляй да перамогі, увасобленай у галы Зідана, а другія – куражом, які прадэманстравала лінія атакі ў складзе Юнгберга, Ларсана і Ібрагімавіча.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПАПРАЎКА

У мінулым нумары ў выніковым пратаколе гарадскога турзлёта школьнікаў была дапушчана памылка.

Каманда СШ№9 заняла на турзлёце 6 месца, каманда СШ№12 – 8 месца.

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

# Два галы Карасёва

**Хімік (Светлагорск) – Смаргонь 2:2.**

Галы: (8), (84-пен); Карасёў (63, 88). Склад: Канашэвіч – Курак (Канончанка,75), Сінічын, Дукса, Трындзюк – Тарасаў, Дзігілевіч, Гамановіч, Кукалевіч (Урублеўскі,55) – Карасёў, Кухлей.

Выдалены футбаліст "Хіміка" на 72 хвіліне.

**13 чэрвеня. 5500 гледачоў. Суддзя Крук.**

Гаспадары двойчы на працягу матча выходзілі наперад у ліку: напачатку яго правілі хуткі гол, а напрыканцы – рэалізавалі пенальці, які арбітр прызначыў за парушэнне правілаў, што, на погляд кіраўніцтва "Смаргоні", было здзейснена не ў штрафной пляцоўцы.

Дзякуючы майстэрству Карасёва нашым землякам удалося захаваць нічыю на перапоўненым гледачамі светлагорскім стадыёне. Спачатку Барыс абыграў абаронцу і з наска стрэліў у верхні кут, а потым выдатна дзейнічаў на апярэджанні, выкарыстаўшы падачу Урублеўскага злева.

**Тарпеда-Кадзіна (Магілёў) – Маладзечна 1:1.**

Галы: (50); Гірко (64). Склад: Міхайлаў – Дрозд, Вышынскі, Раманоўскі – Новаш, Альховік, Дарахович, Вострыкаў (Сергіевіч, 74), Г.Савіцкі (Мятліцкі, 68) – Шушкевіч (Татун, 46), Гірко.

**13 чэрвеня. 100 гледачоў. Суддзя Ярац.**

Маладзечанцы многа разоў падбіраліся да чужой штрафной, шмат выконвалі стандартных становішчаў. Аднак прабіць дакладна ў створ варот неяк не атрымлівалася. Калі ж гэта ўдалося Гірко ўдарам галавой з падачы Вышынскага, то і быў забіты гол. На жаль, лік у матчы крыху раней адкрылі гаспадары.

З-за траўмы калена другую сустрэчу запар прапусціў Бычкоўскі.

Падрыхтоўка іншагародніх гульцоў ускладнена тым, што пастаянна ўзнікаюць праблемы з харчаваннем футбалістаў каманды – трэнеры мусяць збіраць іх перад матчамі на дзень-два пазней, чым хацелі бы.

Днепр-ДЮСШ-1 – Тарпеда-Кадзіна 1:0. Баранавічы – Бяроза 0:2, Верас – Днепр-ДЮСШ-1 1:0, Граніт – Дынама-Юні 0:3, Ліда – Ведрыч-97 1:2, Вертыкаль – ЗЛіН 0:0, Камунальнік – Лакаматыў 0:2.

| | |
|---|---|
| Лакаматыў | 28 |
| Ведрыч-97 | 22 |
| Баранавічы | 19 |
| ЗЛіН | 19 |
| Хімік | 16 |
| Бяроза (-1) | 15 |
| Ліда | 14 |
| Верас | 14 |
| **Смаргонь** | **14** |
| **Маладзечна** | **12** |
| Камунальнік | 11 |
| Дынама-Юні (-1) | 10 |
| Граніт | 10 |
| Вертыкаль | 7 |
| Днепр-ДЮСШ-1 | 4 |
| Тарпеда-Кадзіна | 3 |

Бамбардзіры: Літвінчук – 10; Мартынаў – 9 (абодва – Лакаматыў); Ерамчук (Ведрыч-97) – 6.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ТУРЫЗМ

## Турысцкі марафон

**МАЛАДЗЕЧНА. Рэспубліканскі пешаходны марафон "100 кіламетраў за 24 гадзіны", прысвечаны памяці доктара Рыгора Шычко, прайшоў сёлета ў 23 раз.**

У суботу каля Вязынкі стартавалі блізу 150 спартсменаў, у тым ліку 32 жанчыны. Шмат сіл і часу забраў другі этап даўжынёю 27 кіламетраў. Таму на начны этап у 22 кіламетры адправіліся толькі 32 мужчыны.

У нядзелю да 14 гадзін усе ўдзельнікі фінішавалі. Першае каманднае месца заняла каманда "Арыён" з Мінска, другое – маладзечанскі турклуб "Пілігрым", на трэцім – каманда БДУ.

У асабістым заліку вызначыўся маладзечанец **Андрэй Дзеніс**: ён заняў першае месца сярод мужчын да 30 гадоў. **Ягор Дзмітрачэнка** фінішаваў другім сярод мужчын да 40 гадоў. У гэтай узроставай групы трэцяе месца сярод жанчын заняла **Галіна Кавалёва**. У **Тамары Канцавой** – другое месца сярод жанчын, якім споўнілася 50 гадоў.

**Сяргей БЯЛКОЎ.**

■ АНОНС

**19 чэрвеня. 17-00. Смаргонь – Баранавічы.** Другая ліга: +2=0-0 4-0. Апошні матч – 2:0 (Дзігілевіч, Відук) дома 3 кастрычніка 2001 года.

**19 чэрвеня. Верас (Нясвіж) – Маладзечна.** Кубак (2000 год, 1/32 фіналу) – 0:1 на выездзе. Па просьбе прадстаўнікоў "Вераса" матч пройдзе ў Нясвіжы і будзе прымеркаваны да гарадскога свята. Сустрэча паміж гэтымі камандамі ў другім крузе адбудзецца ў Маладзечне.

**Маладзечанскі турклуб "Пілігрым" запрашае ў пешаходнае падарожжа па Карпатах і воднае па Беларусі з 6 па 16 жніўня.** Дадатковую інфармацыю можна атрымаць у Наталлі Пятровіч па тэлефоне ў Мінску 70-09-11; аматары водных паходаў – у Ганны Пятроўскай па тэлефонах ў Маладзечне 8-029-704-61-73, 5-47-30 (рабочы).

**МАЛАДЗЕЧНА. Тэлеканал ОРТ з 14 чэрвеня выпусціў у эфір серыял "Каманда".** Значная частка здымкаў гэтай стужкі прайшла год назад у Маладзечне. Фільм будзе ісці на працягу трох тыдняў з аўторка па пятніцу. На наступным тыдні серыі пачынаюцца ў 17.05 і доўжацца каля гадзіны. Іх ранішні паўтор – з 10.50.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ ТУРЫЗМ

**ВІЛЕЙКА. 9 – 11 чэрвеня на беразе ракі Пціч каля г.п. Капаткевічы Гомельскай вобласці адбыўся турзлёт арганізацый, пацярпелых ад Чарнобыля. 1-е і 3-е месца занялі адпаведна каманды аздараўленчых цэнтраў "Надзея" з Вілейкі і "Лясная паляна" са Смаргоні.**

У спаборніцтвах узялі ўдзел 10 каманд. Рэспубліканскія турзлёты аздараўленчых прадпрыемстваў сталі традыцыйнымі з ініцыятывы ДРАЦ "Надзея", якая арганізавала першы турзлёт на беразе Вілейскага вадасховішча ў 2002-м годзе. Наступны турзлёт у 2005 годзе будзе праводзіцца на базе ДРАЦ "Надзея".

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

**МАЛАДЗЕЧНА. На гарадскім турзлёце калектываў фізкультуры 11-13 чэрвеня, сабралася 12 каманд. Удвая больш, чым летась.**

Спаборніцтвы пачыналіся з начнога арыентавання. Лепшыя каманды фінішавалі ў гадзіну ночы–а паслове другой гадзіны. У праграме былі паласа перашкодаў, конкурс мастацкай самадзейнасці, дзённае арыентаванне, міні-футбол. У выніку пераможцай стала каманда "Рэгіно" (зборная з мінчан і маладзечанцаў), другое месца заняла каманда маладзечанскіх электрасетак, на трэцім – каманда турклуба "Пілігрым".

**Святлана ЦІШКО.**

■ ПЛЯЖНЫ ВАЛЕЙБОЛ

**МЯДЗЕЛ. У Купе прайшоў 2-і этап Кубка Мінскай вобласці па пляжным валейболе.**

У трох узроставых групах змагаліся і мужчыны, і жанчыны. Найлепей з камандаў Мядзельскага раёна выступілі **Васіль Маслюк і Яўген Садоўнікаў**. Яны занялі трэцяе месца сярод ветэранаў (гульцоў старэйшых за 40 год).

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

**Першынство краіны сярод юніёраў адбылося ў Брэсце 8-10 чэрвеня.**

Вікторыя Радчук са Смаргоні заняла другое месца на дыстанцыі 200 метраў з часам 25,61 (I месца – 25,14; III – 25,76) і трэцяе месца на 100 метрах з часам 12,33 (I – 12,22; II – 12,32). Таксама яна выступіла ў складзе зборнай вобласці ў эстафетах 4 па 100 метраў і 4 па 400 метраў, якія занялі адпаведна другое і трэцяе месцы. Другое месца на 5 кіламетраў захаваў маладзечанец Яўген Мучынскага з часам 14.55,07 (I – 14.52,33; III – 15.08,24). Трэція пазіцыі пакінулі сабе на 10 кіламетрах маладзечанец Дзяніс Гіль з часам 32.55,05 (I – 30.55,43; II – 31.55,92) і ў сяміборстве Дар'я Рэут са Смаргоні з вынікам 4350 ачкоў (I – 4742; II – 4551).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, АМАТАРЫ

**ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА. На Міншчыне стартаваў турнір, які раней насіў статус другой лігі абласнога чэмпіянату, а зараз будзе называцца першынство абласной федэрацыі.**

Удзельнічаюць пяць каманд у два круга, у тым ліку "Прадпрымальнік" (Вілейка) пад кіраўніцтвам **Пятра Губіча**. У стартавым матчы каманда саступіла "Газавіку" (Крупкі) 0:2 на выездзе. "Камунальнік" (Маладзечанскі раён) у чэмпіянаце Мінскай вобласці набраў 5 ачкоў і займае 8 месца з балансам: +1=2-3 8-11. Праведзены матчы – "Аўтамабіліст" (Узда) 1:1 на выездзе, "Камунальнік" (Клецк) 0:1 дома, "Любань" 4:3 на выездзе.

# ВІНШАВАНКІ

**Ядвігу Вікенцьеўну Кавалеўскую** з 80-годдзем!



Дарагая матулечка, бабуля! Віншуем цябе з юбілеем. Прымі, родная, нашы найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя, жыццёвай стойкасці, захавання заслужанай табою павагі ад людзей і нашай бясконцай любові.

Мамочка наша родная, любимая,
Бабушка славная, незаменимая,
С днём рождения тебя поздравляем,
Всяческих благ в твоей жизни желаем:
Чтобы ты никогда не болела,
Чтобы ты никогда не старела,
Чтобы вечно была молодой,
Весёлой, доброй и нежной такой!

*З любоўю да цябе дочкі і ўнукі.*

**Танячку Сялюн** з днём нараджэння! Будзь здаровай, прыгожай і шчаслівай, кахання табе і поспехаў ва ўсім. *Ганначка Чараповіч.*

Маладзечанскі турклуб "Пілігрым" віншуе **Галіну Клемяціч** з днём нараджэння! Жадае здароўя, добрага настрою і шмат грошай.

**Веру Васілеўну Карташэвіч** з в. Укропава віншуем з 90-годдзем! Жадаем ад Бога здароўя, ад сонца – цяпла, ад людзей – дабра. *Капуцкія.*

**Лілію Шукайло** віншую з днём нараджэння! Жадаю здароўя, шчасця, поспехаў у працы і вечнай маладосці. *Рэгіна.*

**Наташу Цярэшка** і ўвесь **ФАП Насілава** віншуем з днём медыцынскага работніка! Здароўя вам, дзяўчаты, і сонечных дзён. *Ад удзячных наведвальнікаў.*

Віншую **медыцынскіх работнікаў Чысцінскай бальніцы** і асабіста лечачы ўрача-тэрапеўта **Таццяну Георгіеўну Ракоўскую** з прафесійным святам! Жадаю ім здароўя, сямейнага дабрабыту, любові, поспехаў у нялёгкай працы. Нізкі вам паклон, людзі ў белых халатах!

*З павагай, пенсіянерка Ніна Фёдараўна Янкоўская.*

**Міхаіла Міхайлавіча Шаўлюка, Наталлю Мікалаеўну Калмыкаву** і ўсё 1 радзільнае аддзяленне віншую з днём медработніка! *Вашы пацыенты.*

**Марыю Дзмітрыеўну Саўчанку** і **Таццяну Алегаўну Мажуць** віншую з днём медработніка! Здароўя, шчасця і кахання. *Косця Ляпцюк.*

**Павел Фёдаравіч** і **Алена Мікалаеўна Савіцкія, Арнольд Цэзаравіч Саўлевіч**! З днём медыка! Здароўя, шчасця і поспехаў у працы. *Рэгіна.*

**Тамару Рыгораўну Куракіну** з днём нараджэння! Любімая цётачка, жадаем Вам моцнага здароўя і шчасця. *Сям'я Чараповічаў.*

**Ніна Мікалаеўна Нелюб** і **Наталля Эдуардаўна Гілевіч**, з днём медыцынскага работніка! Здароўя, шчасця і вечнай маладосці. *Рэгіна Ляпнюк.*

**Ганну Іосіфаўну Сафонаву** з днём нараджэння! Вы добры чалавек з вялікай душой, шчасця Вам! *Ганначка.*

**Таццяна Анатолеўна Зяноўка, Вольга Васільеўна Лавіт, Аляксандр Рыгоравіч Глазко**, з днём медыка! Здароўя і росквіту. *Рэгіна Ляпнюк.*

**Ганну Сафонаву** з днём нараджэння! Дзякуй Вам за шчырае сэрца, хай благаславіць Вас Бог. *Ганначка.*





# ЗНАЁМСТВЫ

Мужчына, 49/172/82, былы ваенны, матэрыяльна забяспечаны, без шк./зв., з інтэлектам і ч/г, умелыя рукі, аўтамабіль, пазнаёміцца з адукаванай, абаяльнай жанчынай да 43 гадоў, якая нарадзілася пад знакам – Шалі, Блізняты, Вадалей, без шк./зв., з ч/г і рамантычнай натурай, для сур'ёзных адносінаў. Пажадана фота (вярну). 231042, Смаргонь-2, а/с 36.

Жанчына, 44/164, пазнаёміцца з добрым чалавекам, без шкодных звычак 43-50 гадоў для стварэння сям'і. Т. (01771) 46204.

Добрая, ласкавая жанчына, 49/162/62, пазнаёміцца з добрым, спакойным мужчынам, каб паспрабаваць зрабіць адзін аднаго шчаслівымі. Маладзечна-6, п/п МС 0535633.

Вольга, 39/164, медык, ёсць дачка, пазнаёміцца з сур'ёзным мужчынам. 231000, Смаргонь, п/п КН 0451320 ці (8-029) 7867172.

Мужчына, 29/175/75, разведзены, без шк./зв., пазнаёміцца з дзяўчынай для сур'ёзных адносім. 222310, Маладзечна-6, п/п №3994436.

Жанчына, 39/164, адно дзіця, пазнаёміцца з адзінокім, сур'ёзным мужчынам. Смаргонь, п/п 044106 ці (8-029) 7867172.

Калі для цябе галоўнае не іншамарка, а спадарожнік жыцця, сімпатычны і з жыллём, напішы мне, добрая дзяўчына. 222310, Маладзечна-4, п/п 641077.

**Купон 25** Рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

## Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

# Ля Маладзечна запускаюць ракеты

**Ад 8 па 11 чэрвеня Маладзечна прымала ўдзельнікаў рэспубліканскіх спаборніцтваў па ракетамадэльным спорце, у якім удзельнічалі каманды ўсіх абласцей, сталіцы і нашага горада (па-за конкурсам).**

У Беларусі праходзіць пятая спартакіяда вучняў, прысвечаная 60-й гадавіне вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 75-годдзю арганізаванай дзіцячай тэхнічнай творчасці Беларусі. Урачыстае адкрыццё спаборніцтваў у Маладзечне прайшло 9 чэрвеня ў гарадскім парку Перамогі ля Вечнага агню. На ім прысутнічаў ветэран Вялікай Айчыннай вайны **Іван Дайноўскі, які даў наказ маладому пакаленню берагчы мір і сваю Радзіму.** У выніку, першае месца заняла каманда Гродзенскай вобласці, на другім месцы апынуліся прадстаўнікі Мінскай вобласці, а на трэцім – Магілёўскай.

**Валянцін ЦІШКО, клуб юных журналістаў "Маладзік" Цэнтра пазашкольнай работы.**

■ ВАМ ДАПАМОГУЦЬ

# Мужчыны маюць права

Рэдкая жанчына не стукала пад час сямейнай сваркі дзвярыма і са словамі: "Забяру дзяцей і паеду да мамы", не збірала чамадан. У нашым грамадстве так заведзена: пад час разводу дзеці застаюцца з маці. На жаль, такое вырашэнне пытання задавальняе не ўсіх мужчын. І тады яны шукаюць падтрымкі ў грамадскага аб'яднання "Абарона правоў бацькоў і дзяцей".

Гэта недзяржаўная, некамерцыйная арганізацыя ўзнікла ў выніку руху па аказанню ўзаемадапамогі мужчынам, якія выхоўваюць дзяцей пасля скасавання шлюбу, а таксама усім дзецям, што жывуць у праблемных, альбо няпоўных сем'ях.

Афіцыйна яна была зарэгістравана ў Мінску ў 1991 годзе. Сёння мае актывістаў добраахвотнікаў амаль ва ўсіх гарадах Беларусі. А ў Маладзечне нават дзейнічае яго аддзяленне.

"За час работы, — расказвае прадстаўнік грамадскага аб'яднання "Абарона правоў бацькоў і дзяцей" у нашым горадзе Леў Палянскі, — мы дапамаглі не адной сям'і. Прычым, не толькі маральна, але і матэрыяльна, юрыдычна. Многія таты, якія не бачылі сваіх сыноў і дачок гадамі, цяпер маюць магчымасць сустракацца з дзецьмі кожны выхадны дзень, забіраць іх на канікулы, хадзіць разам у парк, кіно".

Свежая яшчэ гісторыя адной маладзечанскай сям'і, дзе муж і жонка, пасля скасавання шлюбу, пачалі дзяліць дзяцей. Старэйшая дзяўчынка хацела застацца з татам, аднак суропць была маці.

Юрысты грамадскага аб'яднання параілі бацьку не траўміраваць дзяўчынку. Шэсць месяцаў яна жыла з маці. А пасля таго, як споўнілася 11 год, зрабіла самастойны выбар. Перайшла жыць да яго. Цяпер, кожную трэцюю нядзелю ліпеня, яны ездзяць у Мінск, дзе праходзіць Свята Бацькі, каб сустрэцца з сем'ямі, якія сутыкнуліся з падобнымі праблемамі. Пройдзе мерапрыемства і сёлета, у 12 гадзін 45 хвілін у гарадскім парку імя 50 Вялікага Кастрычніка (раён Трактарнага завода). Тут можна будзе не толькі абмеркаваць свае праблемы, але і адпачыць, цікава правесці вольны час. Дадатковую інфармацыю можна атрымаць у Маладзечанскім аддзяленні аб'яднання па тэлефоне 3-70-96.

**Марына СЛІЖ.**

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

Вось правільныя адказы на мінулыя пытанні:

1) Галіна скончыла Беларускі політэхнічны інстытут (цяперашняя політэхнічная акадэмія) па спецыяльнасці інжынер-будаўнік.

2) Кніга Някляева называлася «Лабух».

Менавіта так і адказалі **Дзмітрый Пакладок, Юрый Юхневіч, Арцём Якубовіч.**

Іх я запрашаю ў рэдакцыю па білеты ў кіно.

"Што далей?" Так называецца новае заданне. Групу з чатырох квадратаў уверсе трэба дапоўніць адным квадратам знізу.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 9 6 / 162 | 7 5 / 105 | 5 4 / 60 | 3 3 / 18 | ? |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 7 5 / 6 | 1 3 / 7 | 7 5 / 44 | 3 2 / 78 | 9 1 / 10 |

| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
|---|---|---|---|---|
| 7 4 / 4 | 9 7 / 99 | 8 4 / 9 | 1 2 / 6 | 9 0 / 8 |

Не забывайцеся, што адказы прымаюцца толькі ў пісьмовай форме, з разборліва напісанымі імем і прозвішчам. Пастарайцеся паспець да 28 чэрвеня.

Шаноўныя пераможцы, помніце, што білеты можна атрымаць толькі ў тым месяцы, калі выйшаў нумар. Калі ласка, калі адпраўляеце адказ па пошце, стаўце паметку: «Зарабі білеты ў кіно», або «Валянціну».



Чытачоў азадачваў Валянцін ЦІШКО.

■ ІМЯНІНЫ

**18 чэрвеня. Праваслаўныя**: Апалона, Дарафея, Ігара, Іоны, Леаніда, Нікандра. **Каталіцкія**: Альжбеты, Марка.

**19 чэрвеня. Праваслаўныя**: Іларыёна, Іоны. **Каталіцкія**: Гервазі, Марцэля, Пратаза, Рамуальда.

**20 чэрвеня. Праваслаўныя**: Валерыі, Антаніна, Багдана, Маркела, Фядота. **Каталіцкія**: Богны, Фларэнціны.

**21 чэрвеня. Праваслаўныя**: Фядоры, Васіля, Вісарыёна, Засімы, Канстанціна, Яфрэма. **Каталіцкія**: Аліцыі, Марты, Алоіза.

**22 чэрвеня. Праваслаўныя**: Марфы, Фёклы, Аляксандра, Кірылы. **Каталіцкія**: Паўліна.

**23 чэрвеня. Праваслаўныя**: Антаніны, Васіля, Івана, Феафана. **Каталіцкія**: Ванды, Зянона, Юзафа.

**24 чэрвеня. Праваслаўныя**: Варнавы, Варфаламея, Яфрэма. **Каталіцкія**: Купалле (Нараджэнне Яна Хрысціцеля).



# ТРАНСПАРТ

**ПРАДАМ**

- Аўдзі-80, 1988 г.в., 1,8і, 2500 у.а., торг. Т. (8-029) 7043977.
- Аўдзі-80, 1980 г.в., 1,6Б. Т. у Вілейцы 57771.
- Аўдзі-100 С-4, 1992 г.в., 2,3Б, АБС, ц/з, г/у, э/люстэркі, э/люк, 5 дней з Германіі. Т. у Маладзечне 45181, (8-029) 6601273.
- БМВ-316, 1984 г.в., л/д, э/люстэркі, 1400 у.а., торг, магчымы абмен. Т. (8-029) 5510422.
- БМВ-320, Опель Аскону, Форд Сіеру. Т. у Вілейцы 53533, (8-029) 6862595.
- ВАЗ-2101, 1981 г.в., рамонт не патрабуецца. Т. у Вілейцы 56534.
- ВАЗ-2101, капітальны рамонт. Т. у Вілейцы 35188, 51950.
- ВАЗ-2103, 1,6 бензін, зялёны, цюнінг, фаркоп. Т. у Вілейцы 45260.
- ВАЗ-2103, 1979 г.в.; карову; канапу б/у. Т. у Вілейцы 32918.
- ВАЗ-2103, 1978 г.в., добры стан. Т. у Вілейцы 53032.
- ВАЗ-21053, 1995 г.в., 1450 у.а., торг. Т. (8-029) 7074849.
- ВАЗ-21063, 1985 г.в. Т. у Вілейцы 53410.
- ВАЗ-2107, 1985 г.в., добры стан, 1100 у.а., торг. Т. (8-029) 5514842.
- ВАЗ-2107, 1991 г.в., 5КПП, выдатны стан (мурэна), 1350 у.а. Т. (8-029) 7757393.
- Вольву-740, 1985 г.в., сярэбраны металік, дызель, г/у, нядорага, тэрмінова. Т. у Маладзечне 68959, 69410, (8-029) 6591082.
- Вольву-740, 1988 г.в., шэры металік, ц/з, г/у, л/д, падагрэў сядзен., сігналіз., добры стан, 2100 уа, тэрмінова. Т. (8-029) 7765956, (8-029) 6206838.
- Вольву-760, 1983 г.в., 1800 у.а. Т. у Вілейцы 51865.
- ГАЗ-24, 1975 г.в. Т. у Маладзечне 52853.
- Кіа Кларус, 1998 г.в., 2,0 бензін, АКПП, седан, зялёны металік, 2 тыдні з Германіі. Т. (8-029) 7747382.
- Мазду-323F, 1991 г.в., г/у, ц/з, 2400 у.а., торг. Т. у Маладзечне 43104 (пасля 18.00).
- Мазду-626, 1994 г.в., кандыцыянер, эл/пакет, магнітола "Sony", серваруль. Т. (8-029) 6853589.
- М-2140, 1,5Б, чырвоны, без праблем, 350 у.а., торг. Т. у Вілейцы 57768, (8-029) 7674127.
- Масквіч-2140 на запчасткі; участак 15 сотак. Т. у Вілейцы 32086.
- М-412, 1990 г.в., ТА, без акумулятара; газавыя балоны. Куплю падзараднае. Т. (8-029) 5589268.
- Масквіч-412, 1982 г.в. Т. у Вілейцы 59462.
- Мерседэс-123, 1980 г.в., бензін. Т. (8-029) 7644188.
- Мерседэс-190, 1988 г.в., 2,0і. Т. (8-029) 7651440.
- Мерседэс-200W124, 1985 г.в., 2500 у.а. Т. (8-0290 5514842.
- Мерседэс Е-250, 1995 г.в., дызель, 7400 у.а., торг. Т. (8-029) 7734209.
- Мерседэс-307, 1984 г.в, нядорага. Т. у Маладзечне 69062, (8-029) 7684020.
- Міцубісі Кольт, 1992 г.в., усе навароты, патрабуе пафарбоўкі, 1900 у.а. Т. (8-029) 6614964, (8-029) 6169284.
- Ніва-21213, 1995 г.в., цана дагаворная. Т. у Маладзечне 75897, (8-029) 6267908.
- Нісан Прэм'еру, 1994 г.в., 2,4і, ёсць усё, акрамя скуры, 4500 у.а., цёмна-шэры металік. Т. (8-029) 6869289.
- Нісан Прэм'еру, 1992 г.в., 2,0 дызель, поўны эл/пакет, 3100 у.а. Прадам карову. Т. (8-029) 6869289.
- Опель Амегу Караван, 1992 г.в., 2,3Д, у добрым стане. Т. у Вілейцы 46268.
- Опель Аскону, 1986 г.в., 1,6 дызель, 1300 у.а. Т. у Вілейцы 76527.
- Опель Астру, 1996-97 г.в., 1,6 бензін, кандыцыянер, л/д, п/б, ц/з, г/у і інш. Тэрмінова. Т. у Маладзечне 34656.
- Опель Вектру, 1993 г.в.; камплект спойлераў ФВ Гольф; мабільны тэлефон "Nokia" 2100-83.10. Т. (8-029) 7075079.
- Опель Вектру, 1995 г.в., 1,8і. Т. (8-029) 6869216.
- Опель Вектру, 1992 г.в., 1,7 дызель, белы, кошт 2700 у.а., торг. Т. у Вілейцы 57530, (8-029) 6241061.
- Опель Вектру, 1995 г.в.; ФВ Пасат, 1990 г.в. Т. у Вілейцы 51907, (8-029) 6248903.
- Опель Кадэт, 1987 г.в., 1,6 дызель, 3-дзверны, універсал. Т. у Вілейцы 57206.
- Опель Кадэт, 1982 г.в., 1,6 дызель. Т. у Маладзечне 34364.
- Опель Кадэт, 1984 г.в., кропля. Т. (8-029) 5585542.
- Опель Корсу, 1997 г.в., 1,2, чорны; Форд Фіесту, 1995 г.в., 1,1, чорны. Т. у Маладзечне 67611.
- Опель Корсу, 1994 г.в., мона ці памяняю на дызель. Т. у Вілейцы 58951.

